PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 40 (2160) Год XLII Беласток 5 кастрычніка 1997 г. Цана 1 зл.

## У нумары

Скандал у Белавежы ✓ стар. 3

Узнікае помнік ахвярам злачынства „Бурага” ✓ стар. 3

Як галасавалі ў Ласінцы, Плёсках і Целушках ✓ стар. 4

Сваю праўду пра II З’езд „Бацькаўшчыны” прадстаўляюць А. Анішэўская, Л. Глагоўская і К. Масальскі ✓ стар. 8-9

Перажыванні члена выбарчай камісіі ✓ стар. 9-11

Арлянскія армяне ✓ стар. 10

### Выбары ў Сейм у Беластоцкім ваяводстве




| Выбары ў СЕЙМ | | |
|---|---|---|
| № | Кандыдат | Лік галасоў |
| | *Sojusz Lewicy Demokratycznej* | |
| 1. | Włodzimierz Cimoszewicz | 53 958 |
| 2. | Siergiej Plewa | 2 135 |
| 3. | Jan Syczewski | 1 688 |
| | *Prawosławni* | |
| 1. | Eugeniusz Czykwin | 7 574 |
| 2. | Antoni Mironowicz | 2 032 |
| 3. | Wiktor Rejent | 1 044 |
| 4. | Sergiusz Szczygoł | 1 005 |

| № | Кандыдат | Лік галасоў |
|---|---|---|
| | *Unia Pracy* | |
| 1. | Artur Smółko | 4 070 |
| 2. | Eugeniusz Wappa | 2 023 |
| 3. | Tadeusz Skoczyński | 1 183 |
| | Выбары ў СЕНАТ | |
| 1. | Jan Chojnowski | 131 892 |
| 2. | Stanisław Marczuk | 108 581 |
| 3. | Jadwiga Rudzińska-Patejuk | 51 535 |
| 4. | Michał Kondratiuk | 27 482 |
| 5. | Jan Topolański | 19 846 |

# Уся ўлада — „Салідарнасці”

Гэтага ніхто не прадбачыў. Увесь год апытанні грамадскай думкі паказвалі раўнавагу між Саюзам левых дэмакратаў і Акцыяй выбарчай „Салідарнасць”. У нядзелю АВС перамагла СЛД. АВС атрымала 201 месца ў Сейме і больш паловы ў Сенаце. СЛД возьме 164 пасольскія і 28 сенатарскіх мандатаў. Пра поспех можа гаварыць Унія вольнасці: 60 месцаў у Сейме і перспектыва на ўрадавую кааліцыю.

Далей ідуць прайграныя: ПСЛ, якое страціла 100 пасольскіх мандатаў і апынулася ў новай для яго сітуацыі малаважнай партыі. Рух адбудовы Польшчы поўнасцю прайграў змаганне з АВС за тое, што будзе галоўнай сілай на правым баку палітычнай сцэны. Яго шэсць мандатаў гэта вынік ніштожны. Унія працы прайграла змаганне за тое, каб стаць некамуністычнай левай партыяй і выцясніць СЛД. Паражэнне УП поўнае. Яна не ўвойдзе ў парламент, чаго праўдападобна не перажыве. Ходзяць чуткі пра яе аб’яднанне з УВ.

Татальнай перамогай АВС скончыліся выбары на Беласточчыне. Салідарнікі ўзялі пяць мандатаў у Сейм і абодва ў Сенат. СЛД узяў два пасольскія мандаты. Вось і ўсё. Без мандата засталіся тут УВ, ПСЛ, РАП, УП. Гэтую апошнюю апярэдзіў камітэт Згуртавання славянскай нацыянальнай меншасці — Праваслаўныя, але ж таксама ўпустую.

Такім чынам, правалам скончыліся выбарчыя намаганні як царкоўных кругоў, так і Беларускага саюза, які ішоў з Уніяй працы.

Перад выбарамі здавалася, што праваслаўнае насельніцтва Беласточчыны пачынае хістацца ў сваіх сімпатыях да СЛД. Усё-такі ў дзень выбараў аказалася, што „нашы” людзі яшчэ раз даверылі Владзімежу Цімашэвічу. Яго перавага над іншымі кандыдатамі са спіска СЛД ёсць яшчэ большая, чымсьці чатыры гады таму. За спіною В. Цімашэвіча ў беластоцкім СЛД няма практычна нікога. Сяргей Плева дастаў удвая менш галасоў, чымсьці папярэднім разам, а і так стаў паслом.

Паслом Сейма стаў таксама Ян Сычэўскі, на якога спрацаваў краёвы спісак СЛД.

Дзве тысячы галасоў атрымаў Яўген Вапа. На тысячу менш, чымсьці спадзяваўся яго штаб, але і так болей, чымся яму давалі спаборнікі. Як не глядзі, стаўка Беларускага саюза на Унію працы аказалася памылкай.

Усё-такі самым вялікім прайграным у нашым асяроддзі сталі „славяне” і асабіста іхні лідэр Яўген Чыквін. Нягледзячы на мабілізацыю Царквы і аграмадную працу самога кандыдата, камітэт ледзь паўтарыў вынік Праваслаўнага камітэта з 1991 г., а Я. Чыквін атрымаў менш галасоў, чымся тады.

На маю думку, выбарчыя вынікі беларускіх і праваслаўных кандыдатаў настолькі паражальныя, што няма чаго шукаць вінаватых. Пэўне ж, аб’яднаныя выпалі б крыху лепей, але і так відавочна не хапіла б галасоў.

Праваслаўны народ яшчэ раз вырашыў перш за ўсё не дапусціць да ўлады „ксяндзоў”. Гэта быццам бы „гарантаваў” толькі СЛД. Як бачым, гэтыя „гарантыі” аказаліся мыльным пузыром. Выбаршчыкі вырашылі адно: праваслаўныя беларусы не будуць мець уплыву на нішто.

Алег Латышонак

# Мы прачыталі

*Rozpoczął się rok szkolny. Dla uczniów oznacza to powrót do lektur obowiązkowych. Nie ma co się łudzić — dla ogromnej większości nie jest to zajęcie ani miłe, ani pouczające, ani przydatne. To raczej prawdziwa rytualna katorga. Trzeba brnąć przez jakieś wizje „Dziadów”, walczyć z sennością przy opisach przyrody „Nad Niemnem”, przemagać się z odrazą od obrazów nędzy w „Ludziach bezdomnych”. Młodzi ludzie nie dostrzegają jakiegokolwiek związku między twórczością romantycznych wieszczów, a współczesnym światem wartości. Poezja od baroku do neoromantyzmu jest dla nich przekazem z innej planety, w dodatku nudnej jak krajobrazy z Marsa. Czytanie klasyki przypomina zatem kontakt z truchłami albo w najlepszym razie zwiedzanie muzeum. Rząd dusz nad młodym pokoleniem sprawują dziś raczej muzycy rockowi albo aktorzy filmowi. W języku, w jakim posługują się młodzi Polacy, nie ma praktycznie śladu obcowania z literaturą. Niespodziewanie dużą moc wzoro-twórczą wykazał język „Psów” Pasikowskiego.*

*Polityka, nr 37*

* * *

*Nie trzeba być szczególnie inteligentnym, by zauważyć, że Łukaszenko urodził się o pięćdziesiąt lat za późno i że wśród przywódców państw europejskich wygląda absurdalnie i groteskowo. Nie pomniejsza to tragizmu tego, co dzieje się na Białorusi — odradzającego się z przeszłości politycznego koszmaru. W ciągu tych lat dokonał się proces prywatyzacji władzy. Powstał autorytarny reżim, w którym władza i aparat państwowy stały się prywatną własnością i zakładnikiem prezydenta, instrumentem wprowadzania „nowego porządku”. W centrum Europy pojawiła się ogromna „czarna dziura” — „białoruska anomalia imienia Łukaszenki”, w której strzałki wszystkich kompasów wskazujących cywilizowany kierunek rozwoju zaczynają bezradnie kręcić się we wszystkie strony.*

*Więź, nr 9*

* * *

*У Беларусі бедным жыць цяжка, багатым страшна,* — піша

*Пагоня, н-р 46*

* * *

*W Puńsku w Urzędzie gminnym wisi litewska flaga i mówi się po litewsku.*

*Gazeta Wyborcza, nr 214*

Літоўцы ніколі не пісалі лозунгаў накшталт „людзьмі звацца”.

* * *

*Няўжо вашым дзецям не даюць вучыцца на сваёй мове?! — здзіўляюцца замежнікі. Яны не вераць, што такая дзікая дыскрымінацыя карэннага народа сапраўды існуе. Але факт ёсць факт. У Гродне бацька пяцікласніцы Агаты Мацько падаў у суд адміністрацыю школы н-р 10 з патрабаваннем забяспечыць магчымасць навучання для ягонай дачкі роднай мовы. Першыя чатыры гады Агата хадзіла ў беларускі клас. Суд палічыў прэтэнзіі бацькі Агаты неабгрунтаванымі, паколькі згодна з лукашэнкаўскай канстытуцыяй яе клас пачаў працаваць на рускай мове, таксама дзяржаўнай. З прыходам да ўлады Лукашэнкі на Беларусі пачалася хітрая і мэтанакіраваная палітыка па задушэнні беларускамоўнага школьніцтва. Пасля рэферэндуму 1995 г. чыноўнікі скіравалі ўсе свае сілы на выцісканне беларускай мовы з сістэмы народнай адукацыі. У Гродне ў 1995 годзе было 27 беларускамоўных школ, цяпер засталося іх толькі 3. У Мінску два гады таму было 130, сёлета засталося 17. Праз год пасля абрання Лукашэнкі прэзідэнтам колькасць рускамоўных школ у Гомельскай вобласці павялічылася з 14,5% да 60,3%. Дзяржава выдае вялікія сродкі на ўтрыманне паліцэйскага апарату, усяляких патрыятычных расейска-савецкіх саюзаў, няма толькі грошай на беларускую асвету.*

*Свабода, н-р 90*

* * *

*Niektórzy politycy i gazety w walce politycznej wykorzystują materiały tajnych służb. Walka w zasadzie toczy się między służbami specjalnymi dawnymi i nowymi. Wynika to stąd, że część tajnych funkcjonariuszy, którzy zawsze włączali się w rozgrywki polityczne została usunięta, ale część nadal tam pracuje.*

*Polacy generalnie obawiaja się tych służb. Wróciła sytuacja pamiętana z czasów PRL, że te służby są poza społeczeństwem.*

*Przegląd Tygodniowy, nr 36*

* * *

*Kadencja tego Sejmu kończy się w dniu, w którym zbierze się na pierwszym posiedzeniu Sejm nowej kadencji. Do tego czasu poseł może korzystać ze swego biura poselskiego wyposażonego w telefony, faksy, komputery, drukarki, mieszkać w hotelu sejmowym, korzystać z darmowych biletów na pociąg lub samolot. Do samego końca posłowie dostają również diety i uposażenia — 3 900 zł. Posłowie i senatorowie nowego Sejmu i Senatu otrzymają te uposażenia podwojone. Parlamentarzyści otrzymają również trzymiesięczną odprawę w wysokości trzech starych uposażeń.*

*Rzeczpospolita, nr 209*

Спачуваем усім тым, якім не ўдалося стаць нардэпам.

# З мінулага тыдня

**Пераможцам** на парламенцкіх выбарах аказалася Акцыя выбарчая „Салідарнасць”, якую падтрымалі 33,83% выбаршчыкаў. Саюз левых дэмакратаў набраў 27,13% галасоў, а Унія вольнасці — 13,37%. У састаў Сейма ўвойдуць яшчэ ПСЛ — 7,31% і РОП — 5,56%. Унія працы, абодва выбарчыя камітэты пенсіянераў і рэнцістаў не перасягнулі пяціпрацэнтнага парога і не будуць мець сваіх прадстаўнікоў у Сейме.

**Беластоцкае ваяводства** у Сейме прадстаўляць будуць восем паслоў: ад АВС — **Кшыштоф Юргель** (прэзідэнт Беластока), **Юзэф Мазалеўскі** (старшыня прафсаюзу „Салідарнасць”), **Пётр Крутуль** (бурмістр Сухаволі) і **Мар'ян Блехарчык** (віцэ-прэзідэнт Беластока) і **Вальдэмар Паўлоўскі** (каталіцкі дзеяч): ад СЛД — **Уладзімеж Цімашэвіч** (прэм'ер-міністр урада), **Сяргей Плева** (старшыня Жыллёвага кааператыва „Сонечны Сток”) і **Ян Сычэўскі** (старшыня ГП БГКТ). Сенатарамі з Беласточчыны сталі кандыдаты АВС **Ян Хайноўскі** (юрыст) і **Станіслаў Марчук** (дзеяч „Салідарнасці”).

**Усходняе гаспадарчае таварыства** намерваецца адкрыць у Беластоку адмысловае бюро, якое будзе займацца абменам інфармацыяй паміж еўрарэгіёнамі. УГТ спецыялізуецца ў гаспадарчых кантактах з Усходам і хоча выйсці насустрач еўрарэгіёнам з заходняй Польшчы і Нямеччыны, якія шукаюць партнёраў для прамысловага і гандлёвага супрацоўніцтва ў краінах Саюза Незалежных Дзяржаў.

**Цэнтр дапамогі жанчынам і дзецям** паўстане ў красавіку-маі наступнага года ў Беластоку і будзе адным з дзевяці такіх асяродкаў у Польшчы. Установа будзе несці дапамогу сем'ям алкаголікаў. Як вынікае з апытанняў, 20% жанчын прызнаецца да таго, што падвяргаюцца актам насілля ў сям'і. Гэтая жудасная з'ява займае трэцяе месца ў ліку найчасцей спатыканых злачынстваў у Польшчы.

**Апаганены сорак сем магіл** савецкіх воінаў, пахаваных на адных з могілак Вроцлава. Як паведаміла камендатура паліцыі, у ноч з 19 на 20 верасня зламыснікі разбілі і павыварочвалі з зямлі надмагільныя пліты. Скінуты таксама ўстаноўленыя на іх мармуровыя урны.

**Трыста валютных паляўнічых** з краін заходняй Еўропы прыехалі паляваць у лясах паўночна-ўсходняга рэгіёна. У надлясніцтве Броўск у Белавежскай пушчы палявала 15 немцаў, а аднаму з іх удалося застрэліць трох аленяў (рогі ў аднаго быка важылі 8,5 кг).

**Выставу грыбоў**, якія растуць на тэрыторыі пушчы, арганізаваў цэнтр прыроднай адукацыі Белавежскага нацыянальнага парку. Вялікую экспазіцыю складалі звыш 200 відаў ядомых і атрутных грыбоў. Падчас выставы можна было пакарыстацца парадамі праф. **Анны Буякевіч** — вядомага міколага з Познанскага універсітэта, купіць цікавыя выданні аб грыбах і пушчанскай прыродзе.

**Чатырох злачынцаў** (трох жыхароў Дубровы-Беластоцкай і адзін з Радамскага ваяводства) напалі на грамадзяніна Рэспублікі Беларусь, які падарожнічаў на машыне. На дарозе з Ліпска ў Аўгустаў бандыты спынілі „Фольксваген”, а яго вадзіцелю прыставілі да шыі пісталет і патрабавалі выдачы грошай, якіх, дарэчы, у беларускага турыста не было. Злачынцы ўцяклі, калі над'ехала аўтафура. Гадзіну пазней паліцыя арыштавала бандытаў. Мяркуецца, што гэта не быў іх першы грабежніцкі напад.

# Весткі з Беларусі

**Складаны дыялог**

Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка сустрэўся з дырэктарам рэгіянальнага падраздзялення Сусветнага банка па Беларусі і Украіне Полам Сігелбаўмам. РБ з'яўляецца членам Міжнароднага банка рэканструкцыі і развіцця Сусветнага банка з 1992 г. За гэты час Беларусь па лініі банка атрымала тры крэдыты. Пытанне далейшага супрацоўніцтва Беларусі і СБ апынулася пад пагрозай з прычыны адсутнасці эканамічных рэформаў у краіне. Прэзідэнт Лукашэнка цвёрда заявіў, што цяперашняя эканамічная палітыка ў Беларусі — адзіная магчымая. Дырэктар Сігелбаўм у сваю чаргу сцвердзіў, што не траціць надзеі на прадаўжэнне дыялогу паміж кіраўніцтвам Беларусі і СБ.

**Сустрэчы з чэмпіёнамі**

Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка сустрэўся з алімпійскімі чэмпіёнамі, сярод якіх былі і юбіляры — Аляксандр Мядзведзь, Алена Бялова і Сяргей Макаранка. Падчас размовы былі абмеркаваны шляхі развіцця прафесіянальнага спорту і масавай фізічнай культуры, работа алімпійскіх чэмпіёнаў з моладдзю і ўдасканаленне дзейнасці трэнерскага саставу.

**Прэзентацыя крыжа**

Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка сустрэўся з мітрапалітам Менскім і Слуцкім, патрыяршым экзархам усяе Беларусі Філарэтам. Падчас сустрэчы кіраўніку краіны быў прадстаўлены новы крыж — аналаг крыжа Еўфрасінні Полацкай. Ён адноўлены па старажытнаму ўзору XII стагоддзя.

**Пяты храм**

У Гродне адбылося ўрачыстае асвячэнне месца, адведзенага пад будаўніцтва праваслаўнай царквы Іаана Хрысціцеля. Узводзіцца яна ў гонар тых, хто загінуў у войнах XX стагоддзя, а размесціцца непадалёк помніка воінам-інтэрнацыяналістам, устаноўленага некалькі гадоў таму па вуліцы Курчатава. Гэта будзе пяты па ліку праваслаўны храм у прыгранічным абласным цэнтры.

**Адукацыйнае супрацоўніцтва**

Каля двухсот педагогаў з Беларусі, Польшчы, Украіны і Расеі прынялі ўдзел у канферэнцыі на тэму „Адукацыя як сродак развіцця чалавека, грамадства, дзяржавы”, якая адбылася ў Віцебску. Настаўнікі суседніх краін падзяліліся вопытам выхавання, абмеркавалі метады і прынцыпы адукацыйнага працэсу, намецілі перспектывы супрацоўніцтва ў павышэнні кваліфікацый педагагічных кадраў.

**Гаспадарчыя перамовы**

Дэлегацыя беларускага ўрада на чале з міністрам знешніх эканамічных сувязей Міхаілам Марынічам правяла ў Брэсце перагаворы з польскай дэлегацыяй, якую ўзначальваў міністр эканомікі Веслаў Качмарэк. Падчас перамоў бакі абмяняліся думкамі аб стане эканамічна-гандлёвых адносін, рэалізацыі праектаў па ўдасканаленні прыгранічнай інфраструктуры, разгледзелі арганізацыю работы на грузавых тэрміналах.

**Камунікацыйная канферэнцыя**

Праблемы развіцця камунікацыйнай сістэмы Парыж—Берлін—Варшава—Менск—Масква будуць разгледжаны на міжнароднай канферэнцыі, якая адбудзецца ў Менску ў канцы кастрычніка. Ініцыятарам яе правядзення выступіў беларускі ўрад. На канферэнцыі будуць абмеркаваны тэхнічныя аспекты і праблемы транспартнай інфраструктуры і прыдарожнага сервісу, рэканструкцыі і мадэрнізацыі чыгункі, арганізацыі міжнародных перавозаў, развіцця і тэхнічнага аснашчэння пунктаў пропуску праз граніцы.

**Беларускія казакі**

У Менску адбыўся ўстаноўчы з'езд Беларускага саюза казацкіх фарміраванняў. На ім быў створаны Савет атаманаў з 9 прадстаўнікоў рэгіянальных арганізацый. Вярхоўным атаманам аднагалосна абраны генерал-маёр казацкіх войск Мікалай Ярковіч. Прыняты статут гэтага грамадскага руху.

**Бульбяное жніво**

У рэспубліцы працягваецца ўборка бульбы. Сёлета надвор'е не спрыяла добраму ўраджаю і таму чакаецца сабраць не больш 120 цэнтнераў з гектара. Усяго на Беларусі, з улікам прыватнага сектара, будзе сабрана да 8,5 млн. тон клубняў. Гэтага хопіць на ўнутраныя патрэбы і на экспарт.

## Неўзабаве ў „Ніве”

- **Пра апошняе царскае паляванне ў Белавежы** — піша Пётр Байко.
- **Перыяд „Нашай Нівы” на Беласточчыне** — новы цыкл фельетонаў Алеся Барскага.

# APEL

Zarząd Koła Miejskiego Związku Kombatantów Rzeczypospolitej Polski i Byłych Więźniów Politycznych w Bielsku Podlaskim oraz „Społeczny Komitet Rodzin” pomordowanych 30 osób (furmanów) przez oddział polskiego zbrojnego podziemia w dniu 31.01.1946 r. koło wsi Puchały Stare, gm. Brańsk — występują z apelem do organizacji społecznych, politycznych, zakładów pracy, urzędów i instytucji oraz ludzi dobrej woli o dobrowolne darowizny pieniężne na budowę pomnika w/w ofiar.

Pomnik wzniesiony zostanie przy zbiorowej mogile z imienną tablicą pomordowanych furmanów na cmentarzu wojennym w Bielsku Podlaskim przy ulicy Wojska Polskiego.

Darowane środki pieniężne na budowę pomnika uprzejmie prosimy przekazać na konto „Zarządu Koła Miejskiego ZKRPiBWP” PKO BP Oddział w Bielsku Podlaskim nr **10201345-30313-270-1 (pomnik).**

Liczymy na powszechny odzew naszego apelu za co z góry serdecznie dziękujemy.

Za Zarząd Koła
Miejskiego ZKRPiBWP
**Wł. Łoziński — Prezes**

Przewodnicząca Społecznego
Komitetu Rodzin
**Paraskiewa Antosiuk**

*Bielsk Podlaski, 15.09.1997 r.*

**Uwagi:** „Społeczny Komitet Rodzin” pomordowanych furmanów nie posiada własnego konta w banku.

# *Падзяка*

Управа Гарадскога гуртка Саюза ветэранаў Рэспублікі Польскай і былых палітычных вязняў у Бельску-Падляшскім ды Грамадскі камітэт сем'яў 30 памардаваных фурманоў атрадам PAS-NZW 31 студзеня 1946 года каля вёскі Пухалы-Старэ Бранськай гміны

***САРДЭЧНА ДЗЯКУЮЦЬ***

Рэдакцыі „Нівы” і яе журналістам за цыкл артыкулаў у штотыднёвіку пра рэпрэсіі, якім у 1944-1948 гадах была падвергнута беларуская нацыянальная меншасць Бельскага павета з боку польскага ўзброенага падполля.

Рэдакцыйнаму калектыву „Нівы” жадаем далейшых поспехаў у прафесійнай дзейнасці і ў асабістым жыцці.

Старшыня Гарадскога гуртка
Саюза ветэранаў
**Ул. Лазінскі**

Старшыня Грамадскага
камітэта сем'яў
**Параскева Антасюк**

*Бельск-Падляшскі 15.09.1997 г.*




# Згодна з законам

Яшчэ летам у Белавежы ўспыхнуў скандал. Войт Белавежскай гміны Станіслаў Куявяк самастойна вырашыў прадаць участкі зямлі, якія некалі тутэйшыя жыхары перадалі ў зямельны фонд, а якія потым пераняла Агенцтва зямельнай уласнасці Дзяржаўнага казначэйства. З гэтай мэтай войт аб'явіў публічныя таргі. У Белавежы мала хто з патэнцыяльных пакупнікоў пра іх ведаў, бо хто там мае звычку штодня хадзіць у гміну чытаць апавяшчэнні на дошцы аб'яў. Затое дзіўным чынам добра ведалі некаторыя жыхары мясцовасцей з глыбі Польшчы, напрыклад, з Кракава, Варшавы, Гданьска. Радныя пачалі шумець, што войт папрадаваў зямлю сваім знаёмцам. Справа трапіла на старонкі двух мясцовых газет — „Białowieżanina” і „Głosu Białowieży”, тады зашумела і ўся Белавежа. На жаль, запозна!

Рэвізійная камісія Рады гміны сцвердзіла парушэнне закону пры продажы зямлі. На яе думку войт не мог сам вырашаць аб продажы, гэтае права прыслугоўвае толькі цэламу Праўленню гміны. Старшыня камісіі Аляксей Семянюк напомніў пры нагодзе, што пастанова самаўрада ад 1996 г. наказвае здабываць для гміны зямлю, а не пазбаўляцца ад яе. Сакратар гміны Анатоль Ахрымюк у сваю чаргу сцвердзіў, што да ніякага правапарушэння не дайшло, усё адбылося згодна з літарай права. Нарэшце Рэвізійная камісія вырашыла перадаць гэтую справу на праверку Агенцтву зямельнай уласнасці. Агенцтва праверыла і... не дашукалася „фармальных парушэнняў у продажы нерухомасці з рэсурсаў”.

Значыць, усё ў парадку, толькі чамусьці ад гэтай справы цягне нямілым пахам. „Згодна з правам” не абазначае яшчэ, што згодна з этыкай, з добрым намерам. Толькі што за адсутнасць апошняга нішто не пагражае. Прададзеныя ўчасткі зямлі зараз лічацца „рольнымі”, але праз нейкі час, калі будуць уводзіцца змены ў мясцовы план прасторавага добраўпарадкавання, іх можна будзе лёгка перакваліфікаваць на будаўнічыя ўчасткі. Тады вартасць гэтых лапікаў зямлі павысіцца ў шмат разоў, а ўласнікі могуць няблага зарабіць.

Усё згодна з законам!

**Пётр Байко**

# Так яно ёсць

**Вясковыя ГСаўскія крамы — нешматлікія ўжо і ўбогія ў тавар — традыцыйна становяцца прыстанішчам для аматараў моцных напояў. Аб своеасаблівай вясковай культуры і рабоце ў сельскім магазіне расказвае Валянціна ГЕРАСІМЮК са Старога Беразова, якая працуе прадаўшчыцай у Старым Корніне.**

— У гандлі працую ўжо 25 гадоў, а ў Старым Корніне — чатыры. Раней працавала я ў краме ў Старым Беразове, дзе жыву. У нашай вёсцы водаправод маем ужо даўно, а з сёлетняй вясны рабочыя пачалі пракладваць каналізацыю. Наша спадарыня войт з Гайнаўкі, Вольга Рыгаровіч, гэта працавітая, добрая, разумная і ветлівая жанчына. Дбае яна пра сваю гміну, кожнаму — і багатаму, і беднаму — параіць і дапаможа. Яна шануе людзей, а людзі — яе.

На работу даводзіцца мне кожны дзень даязджаць 4 км на ровары. Асабліва цяжка ездзіць восенню, калі настануць цёмныя ночы. На дарозе, па якой я езджу, калісьці жанчыну замардавалі. Калі праязджаю побач гэтага месца, стараюся мацней націскаць на педалі... Зімой у краме холадна і прыходзіцца працаваць у паліто. Печка-буржуйка многа не нагрэе. Умовы працы, як бачыце, цяжкія. Прыязджаю раніцай і не абмяжоўваюся да васьмігадзіннага рабочага дня. Пасля 15-й гадзіны не зачыняю крамы, бо людзі вяртаюцца з работы і заходзяць за пакупкамі. Трэба дбаць, каб выручка атрымалася большая, а з гэтым штораз цяжэй. Цяпер па вёсках ездзіць многа аўтакрамаў з Беластока, Нарвы, Нараўкі і іншых мясцовасцей і ствараюць нам канкурэнцыю. Мы таксама аднойчы паехалі з аўталаўкай у Дубічы-Царкоўныя над водасховішча Бахматы, але прыйшлося заплаціць 20 зл. за само месца.



Колькі ж тавару трэба прадаць, каб выручыць гэтыя грошы?

Здараецца і так, што беспрацоўным трэба даваць напавер. Некаторыя бяруць аднаразова па 4 буханкі ў тыдзень, каб хлеб счарсцвеў, бо тады менш яго разыходзіцца.

Хаця працую ўжо чвэрць стагоддзя, аднак зарабляю ўсяго 360 зл. У гайнаўскім ГСе павысілі на 110 зл. зарплату тым прадаўшчыкам, якія прадаюць тавараў найменш на 10 тысяч зл. у месяц. Гэтага дадатку не атрымалі сем чалавек, у тым ліку і я. Тавару ў краме мала, але і гэтага няма каму купляць. Калі канчаецца тэрмін гарантыі на тавар або стареецца каўбаса — хвалююся, а калі людзі не разбяруць апельсінаў ці памідораў — купляю іх сабе дадому.

Стараюся дбаць пра кліентаў і нават ужо звыклася з іхнімі грубіянскімі паводзінамі, бо ж жыву з гэтага, колькі прадам. У горадзе пакупнікі культурныя, а тут некаторыя асобені, асабліва нецвярозыя, то ўжо пячонку мне ад'елі.

Хацелася б мне працаваць у такім магазіне, дзе вялікі тавараабарот, каб я не мусіла ўсім тлумачыць, чаму людзі так мала купляюць. Мне хочацца, каб выручка была вялікая, але гэта не мая віна, што народ бедны. Бывае, што закажу вяндліну ці рыбу, і калі кліенты не купяць усяго, я тады моцна перажываю, не магу спаць, устаю ўночу, прымаю снатворныя таблеткі. Не кіну ж работы, бо працаваць і жыць трэба.

**Запісаў Міхал Мінцэвіч**

*Фота аўтара*

# „Białowieżanin” здаўся

Не так даўно я з задавальненнем інфармаваў чытачоў „Нівы”, што ў Белавежы выходзяць дзве газеты: „Białowieżanin” і „Głos Białowieży”. На жаль, сёння я вымушаны паведаміць, што „Białowieżanin” здаўся. У апошнім аб'яднаным нумары 17/18 за верасень г.г. галоўны рэдактар Анджэй Антчак заявіў, што двухтыднёвік спыняе сваю дзейнасць. Сваё рашэнне тлумачыць ён недахопам часу на рэдагаванне газеты. Праўда, ён аднача сова зрабіў агаворку, што „Białowieżanin” канчаткова не знікае і магчыма будзе яшчэ паяўляцца ў „найважнейшых для белавежскага грамадства момантах”, але гэта ўжо слабая надзея для белавежцаў.

Штомесячнік „Głos Białowieży” ў сваю чаргу, ад кастрычніцкага выпуску, будзе ўжо даступны ў продажы (дагэтуль раздаваўся бясплатна). Цана аднаго экземпляра — 1 зл. Ахвотныя маюць магчымасць зрабіць падпіску ў гмінай бібліятэцы. Газета не будзе ўжо тыражавацца ксераксным спосабам, але друкавацца.

**Пётр Байко**

# Як агітаваць за Цімашэвіча

З'ездзіў я ў нядзельку ў прынарваўскія вёскі паглядзець, як праходзяць тамака парламенцкія выбары ў наш польскі парламент. Паглядзеў я на тыя выбары, паглядзеў я на вёскі, і мінорна зрабілася. Вось для прыкладу Плёскі: трыццаць гадоў таму не бывала, мусіць, і аднаго нумара „Нівы", дзе б не пісалася пра гэтую так тады дынамічную вёску. Сёння ж абязлюднела яна, дажываюць тутака толькі старэчыны, і толькі некалькі дзяцей з вялікага ж калісь сяла давозіць аўтобус у храбалаўскую школу. І дамы ўжо асірацелыя тут, без гаспадароў, і панадворкі зарослыя травою. Толькі агітацыйныя выбарчыя афішы прыдаюць крыху жыцця: з дрэва прымільваецца Кшывіцкі, з электраслупа Цімашэвіч, са сцяны Сычэўскі... Ёсць і патрыятычны заклік: „Rodaku! Wybierz prezesa ROLMAKU". А бліжэй царквы і падлік мазолістых здзяйсненняў Яўгена Чыквіна. Тамака ж і колішняя школа, шчыльна схаваная ад вуліцы за густым бэзам, трымае на сваёй сцяне яшчэ шыльду бібліятэчнага пункта. Не відаць там аднак слядоў чалавечай дзейнасці. Побач школьнага будынка пустуе будынак з шыльдай гэесаўскай крамы. Дзверы адкрытыя, усярэдзіне печка без некалькіх кафляў, квадратны столік і пяць ці шэсць паламаных крэслаў. Хілеюць вёскі і на другім беразе Нарвы; у Канюках ці Цялушках не відаць, каб хто звязваў з імі нейкую сваю будучыню. Пажылыя людзі дажываюць там толькі, бо ўжо няма таго юнацкага азарту, з якім можна было б кідацца віць сабе гняздзечка ў больш прывабным месцы. А хто маладыі дужы, той і паляцеў з роднай вёскі ў гарадскі вырай і пажыць, і паглядзець на шырокі тамака свет. Бо і народная мудрасць гаворыць, што ў горадзе можна многае пабачыць, а ў вёсцы — многае пачуць. Ды і тое ў нас пачутае не лепшае ад пабачанага.

Гутарка з людзьмі зводзіцца да аднаго: вельмі цяжка стала цяпер жыць на вёсцы. З зямлі няма ніякага даходу: цэны машын і хімікатаў ідуць уверх, цэны ж сельскагаспадарчых вырабаў — уніз. І пры той гутарцы пра сваю вясковую бяду амаль паўсюдна спантанна паяўляецца тэма не толькі багатага гарадскога махляра ці грабежніка. І на вёсках ёсць гаспадары, якім жывецца прыпяваючы. Сеюць яны (Матф. 13:3—8). І пажынаюць. Гаспадар у Плёсках бярэ за паслугу па тры з паловай; у апошні тыдзень было чатыры разы (цяпер за нашымі вёскамі ўстанаўляецца толькі адзін від тае паслугі). Цялушкі пад пухлоўскім гаспадаром; той за сваю паслугу бярэ па шэсць. І ні капейкі, барані Уладыка, менш! Нядаўна ў Заблудаве хавалі двaіх зарубаных шаленцам пухлоўскіх прыхаджан. Такое сямейнае гора! Заблудаўскі быў схільны пахаваць дарам. Але ж пухлоўскі не дапусціў: сам пахаваў і здзер паводле свайго тарыфа. За сейбітам смерці на акрываўленую сям'ю наваліўся і другі „сейбіт" з *добрай навіной*: дванаццаць!

— Усе яны пойдуць у пекла! — запеклілася адзін з маіх суразмоўцаў. — Апрача Дзевятоўскага, бо ён яшчэ не такі быў.

Мае плёскаўскія субяседнікі галасавалі на праваслаўных, цялушкаўскія ж — на Цімашэвіча. Падумаў бы хто, што апошнія — гэта заядлыя атэісты. Але ж менавіта яны прасілі нешта зрабіць, каб пабольшыць час царкоўных перадач па радыё. Апастылела глядзець у сябе?..

А propos: не з'яўляецца хіба ніякай спецтайнай, каму павінен Цімашэвіч гаварыць „Bóg zapłać" за тое, што пашанцавала яму быць у вярхах. **(ав)**

# Няма перспектываў на змены

Пару тыдняў таму краіны Еўрасаюза аб'явілі сваю волю абмежаваць палітычныя, гаспадарчыя і культурныя кантакты з прэзідэнтам Беларусі Аляксандрам Лукашэнкам. Палітычныя кантакты дыктатара Беларусі з дэмакратычнымі краінамі Еўропы ўжо ад нейкага часу былі замарожаны. Лукашэнку ад двух гадоў ужо нідзе не запрашалі, а калі нават ён з'явіўся на агульным сходзе кіраўнікоў еўрапейскіх дзяржаў (Мадрыд '96), не было ахвотных да двухбаковых кантактаў. Гаспадарчыя сувязі Беларусі з Захадам былі сімвалічныя і не ўплывалі на эканамічныя працэсы ў рэспубліцы. Таму аб'яўленыя Захадам санкцыі супраць Беларусі маюць выключна прапагандысцкі характар. Але і гэта не надта хвалюе Лукашэнку і яго акружэнне. Здаўна не звяртаюць яны ўвагі на тое, што пра Беларусь і яе ўлады гавораць ў свеце. Падпарадкаваныя прэзідэнту сродкі масавай інфармацыі кормяць грамадзян Беларусі прапагандай аб тым як Лукашэнка і яго кіраванне станоўча ацэньваецца ў свеце.

Падчас нядаўняй сустрэчы прэзідэнтаў краін усходняй і сярэдняй Еўропы ў Вільні большасць прысутных рашуча адмовілася сустрэцца сам-насам з дыктатарам Беларусі, а сярод журналістаў выклікаў ён зацікаўленне як некі еўрапейскі Мабуту ці Кастра. Беларускія тэлегледачы маглі аднак пачуць і пабачыць, што іх прэзідэнт выклікаў найбольшае захапленне замежных сродкаў масавай інфармацыі, быццам бы шанавалі яго таксама як княгіню Дыяну.

У Беларусі няма сіл здольных канкураваць з рэжымам Лукашэнкі. Палітычная апазіцыя маргіналізаваная, народ дэмаралізаваны таталітарнай прапагандай. Месяц таму прагучала па радыё інфармацыя, што Беларусь за апошнія тры гады далучылася да найбольш развітых краін свету. Выглядае на тое, што вялікі працэнт грамадства верыць лукашэнкаўскім прапагандыстам.

Шмат разважалася раней, што ўлады Расіі забяруць з Беларусі свайго стаўленіка і дадуць уладу больш памяркоўнаму палітыку, напрыклад Шарэцкаму, Грыбу ці Шушкевічу, якія таксама падтрымлівалі ідэю інтэграцыі з усходняй суседкай. Але простая калькуляцыя паказвае, што ніхто так не забяспечвае інтарэсы Расіі як Лукашэнка. Ён менавіта не мае ніякага выбару ў галіне замежнай палітыкі. Нідзе яго ўжо не прымаюць, не трэба яго нават пільнаваць. Лукашэнка прымушаны арыентавацца на Расію. Цэнтральнае становішча Беларусі дае вялікі шанц гаспадарцы гэтай краіны, які выкарыстаць мог бы кожны разважны палітык. Не зробіць гэтага Лукашэнка, які будуе штораз вышэйшы мур, адддзяляючы Беларусь ад дэмакратычнага свету. Пакуль што, не відаць фактараў, якія маглі б адмяніць сітуацыю ў Беларусі.

**Яўген Мiрановiч**

# Перадобрылі ў Ласінцы

У Ласінцы быццам і не чулі пра выбарчыя законы. Перад уваходам у школу, дзе змяшчаўся выбарчы ўчастак, красаваўся амаль метровай вышыні выбарчы плакат Уладзімежа Цімашэвіча. На ім лясіняне прышпілілі таксама лістоўку свайго земляка Сяргея Плевы. Гэты апошні спазіраў на выбаршчыкаў з двух бакоў уваходнай брамкі.

Таксама і ў царкве святар напомніў галасаваць на праваслаўных. Пасля багаслужбы група жанчын прагаласавала за Антона Мірановіча.

— Чаму вы аддалі свой голас за гэтага кандыдата? — пытаю ў знаёмых жанчын.

— Выбар то быў такі, — расказвае адна пенсіянерка. — Бацюшка тлумачыў як галасаваць. Ён называў нейкія прозвішчы і адно з іх было вельмі падобнае на *Мірановіч*. Тады бабы дадумаліся, што трэба галасаваць на праваслаўнага Антона Мірановіча. А што, кепска мы зрабілі?

Пачуццё добра выкананага абавязку мелі таксама апытаныя мужчыны.

— Галасавалі на таго, што і трэба, — гаварылі сцішаным голасам. Такі адказ абазначаў, што фаварытам суразмоўцаў быў сам прэм'ер-міністр Уладзімеж Цімашэвіч.

— Чаму?

— Бо ён свой, наш чалавек! — адказвалі.

— Я за Яўгена Вапу, — кажа студэнтка. — Бо ён беларускі патрыёт і добры чалавек.

Маёй субяседніцы не падабалася толькі Унія працы, бо *нудная*: — Але для Вапы я прагаласавала б нават за РОП, — кажа.

Цікава, што амаль усе мясцовыя выбаршчыкі галасавалі на кандыдатаў БДА ў Сенат.

— Бо такое прозвішча нашае, — гаварылі пра Міхала Кандрацюка, — і з Беларускага аб'яднання.

Можна было заўважыць, што сімпатыя мясцовага электарату была скіравана ў бок СЛД, Беларускага саюза і Славянскага камітэта „Праваслаўныя". Хапіла лёгкага штуршка ці ўнушальнай прапаганды, каб змяніць няўпэўненага да канца выбаршчыка і забраць яго голас.

**Ганна Кандрацюк**

# Праграма Баены

У 1993 г. мы прадстаўлялі на старонках нашага тыднёвіка намаганні настаўніка геаграфіі Пачатковай школы н-р 3 у Бельску-Падляшскім Юрыя Баены, каб увесці змены ў праграму навучання гэтага прадмета ў школах Беластоцкага ваяводства. Асветныя ўлады і кіраўніцтва Інстытута ўдасканальвання настаўнікаў (Zespołu Placówek Doskonalenia Zawodowego) не дапусцілі тады да рэалізацыі планаў бельскага настаўніка. Пару тыдняў таму паказалася аднак выданне Міністэрства нацыянальнай адукацыі Польшчы з дапаўняльнай праграмай навучання геаграфіі для сярэдніх і пачатковых школ Беластоцкага ваяводства. Праграма пашырае навучанне гэтага прадмета тэмамі пра беларусаў, іх натуральнае і культурнае асяроддзе. Вучні пачатковых школ ад чацвёртага да восьмага класаў, у сярэднім 5 гадзін у год, будуць вучыцца рэгіянальнай геаграфіі. У першым і другім класах ліцэяў беларусам прысвячаецца 7—10 урокаў. Столькі ж сама часу адводзіцца ў трэцім класе на пашырэнне ведаў пра Рэспубліку Беларусь, а ў чацвёртым пяць гадзін пра беларускую эміграцыю.

Невядома як гэтае навучанне будзе рэалізавацца на практыцы, але першы крок у напрамку нармальнасці і ў гэтай галіне ўжо зроблены.

**(рэд.)**

# На новым месцы па-новаму

У Пачатковай школе ў Боцьках, над уваходам вісіць вялікая цытата з Яна Паула II: „Myślmy o naszej przyszłości, a przyszłość zaczyna się od dziś".

— Як свет светам, беларускай мовы ў нашай школе не было, — кажа дырэктар Крыстына Улікоўска, — гісторыя такога не ведае.

І, відаць, не будзе ведаць. Хаця вучацца там цяпер дзеці з закрытых школ у Красным Сяле і Нурцы, дзе беларуская мова навучалася.

— Я ведаю, што ў асяроддзі Боцькаў не ўспрынялі б гэтага добра, — кажа пані дырэктар. — Каб я, аднак, нават моцна хацела ўвесці ў нас беларускую мову, не маю спецыяліста, не атрымала на гэта ніякіх сродкаў і, галоўнае, ніхто не заявіў мне пра такую патрэбу.

Хто павінен быў гэта зрабіць?

— Бацькі, — лічыць войт гміны Боцькі Юльян Баран. — Плануючы рэарганізацыю школаў, мы склікалі сходы бацькоў, раіліся. Ніхто нам нічога пра беларускую мову не гаварыў. Не было б ніякіх праблем, знайшліся б на навучанне грошы і людзі.

Колькі разоў бацькі павінны запісваць дзіця на ўрокі беларускай мовы? Кожны год, ці толькі раз, у пачатку навукі?

— Зразумела, што толькі раз, — кажа кіраўнік Аддзела беластоцкай асветнай кураторыі ў Бельску Юзэфа Богдан.

— Ці ў сувязі з ліквідацыяй у мінулым годзе школы ў Красным Сяле і сёлета ў Нурцы, — пытаюся яе, — хто-небудзь з асветных улад паінфармаваў дырэктара школы ў Боцьках, што трэба забяспечыць новым вучням навучанне беларускай мовы?

— Не, — адказала пані кіраўнік, — але вашая заўвага трапная. У будучым, відаць, так трэба рабіць.

* * *

У апошніх гадах былі яшчэ закрыты школы ў Рагачах, Дубяжыне, Палічнай, Грабаўцы, Новым Беразове, Лешуках. Дзеці з чатырох апошніх мясцовасцяў маюць магчымасць вучыцца беларускай мове ў новых школах. Дубяжынцы дамагліся ўвесці яе ў Кнарыдах. У Мілейчычах, куды возяць дзяцей з Рагачоў, беларускае мовы няма.

**Мікола Ваўранюк**

# БЕЛАВЕЖА

**СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ № 453**

**Рэдактар: Сакрат ЯНОВІЧ**


**Міра ЛУКША**

* * *

я ўслухаюся ў радзіму
як жанчына
ў сэрца свайго сына
што спавіты з ёю
ў адзін клубок нітак
крыві і чакання

я жанчына
трава і капытнік
наўзбоч каляіны
дарог ад крыніцы

сляза і раса
дыямент павуціння
на радне-валасяніцы
з попелу насыпаны
сцежкі мурашыныя
карта спадзяванняў

і ночы і раніцы
брамы і масты
да жывое памяці
вечныя лісты

слухаю радзіму
ў сваіх нарадзінах

---

**ЗЬНІЧ**

## Ніне

... ты чашу горычы піеш
дарэшты, да мяжы адчаю ...
і я ні кроплі не вяртаю
тых сьлёз, што моўчкі ты ліеш ...

і калі стрэнемся мы там —
дзе ўсе сыходзяцца сьцяжыны, —
тваёй гаротнае сьлязіны
праменьчык усьміхнецца нам ...

*

... праз чару горычы табе
адкрыўся Гётэ ... і бязьмежжа ...
цябе гукае Белавежа ...
і сьвет —
ва ўзьнёслае журбе ...

і я — ціхутка і зьмірэнна —
малюся, грэшны ... і малю —
каб мы аблашчылі Зямлю
і Неба —
ў часе
вокамгненным ...

---

**Міхась АНДРАСЮК**

## Вёска

Трымцяць агнямі
свечы жоўтых клёнаў,
дзядзькі на лавах
п'юць царкоўнае віно,
бабулі час прадуць і,
у далонях
збіваецца кудзеля мазалёў.

Над хаткамі
прыселі на кукішках
дымкі, у каторых дагарае
чорны хлеб.
Як не глядзі: і да зямлі не блізка,
і ў неба вольнае яшчэ далей.

Па-над лугамі
медзяныя хмары
рысуюць першы
восені эскіз.
Лісцё і птушкі звязваюцца ў пары,
каму ў вырай адляцець,
а каму ўніз.
І за фіранкамі
ў акенцах сонных,
агнямі лямпачкі
хістаецца жыццё.

Згараюць ціха свечы жоўтых клёнаў.
Яшчэ за памяць ці,
ужо за забыццё?

---

**Сігітас БІРГЕЛІС**

* * *

І зноў Літва вяртаецца
з халодных краёў выгнаннікаў
бы маладуха ў белені
узорам ільняным

Вяртаецца Літва з забыцця
з магілаў продкаў сваіх
з прыспевам песні сібірскай
бы дзень пасля сонца ўзыходу

*Абеларусіў С. ЯНОВІЧ*

---

**Эўгеніюш КУЖАВА**

## Ерась

Аўрам Збонскі адмовіўся ў рок божы 1435
плаціць дзесяціну касцёлу нашаму айчыннаму
і тады ўладыка Станіслаў герба Цёлак слушна
пракляў яго
і места няшчаснае абняславіў
Аўрам суддзя познанскі вярнуўся з Чэхіі набраўшыся
благое веры казаў пра евангелле ўбоства
пайшоў у люд свой
упераканаў пробашча Мікалая які
схоплены чатырма гадамі пасля
адрокся ерасі гусіцкай
пяць рокаў люд чыпеў у чужым забабоне
ягоны спадар як і бургграф замкавы што хаваў
у сябе
потайна пасля двух гусіцкіх сятароў
пяць рокаў вісела пекла над местам
выгодна абсеўшым ціхую плынь ракі
пяць рокаў
радасць сышла 13 лістапада 1440
калі Аўрам герба Налэнч укленчыў у саборы
Познані

праз год потым памёр у шчасці

няшчасных ды шчыраўпартых род цэлы
давялося яшчэ судом доўга судзіць уладыцкім
каб выкараніць фальш поглядаў
наконт евангельскага ўбоства касцёла ксяндзоў

ўсёроўнасці

ўсіх перад Богам
Мікалая Грынберга бургамістра каб учыніць яму дабро
спалілі жывым у агні

*Пераклаў С. ЯНОВІЧ*

---

**Анатоль РАМАНЧУК**

# „...Сын гармоніі, сын сонца..."

У *Масеевай кнізе* М. Сяднёва ў раздзеле *З майго дзённіка* ёсць кароткі запіс: *Завязалася перапіска з Янам Чыквіным. Цудоўны паэт. Прыгожы чалавек.* Мабыць, гэта было важным і ўзрушаючым момантам у жыцці, калі адразу ў самым пачатку публікуемага дзённіка згадана аўтарам. Для мяне ліставанне з Янам Чыквіным, нават разуменне гэтага факту, таксама было светлым мігам. Бо пачаўся новы этап пазнання яго творчасці, яго асобы. Быццам зазірнуў у студню святую. Ян Чыквін — паэт, які чэрпае жывую ваду паэзіі і з амаль перасохлых крыніц класічнасці, і з бурапенных вадаспадаў мадэрнізму. Паэт, які выявае розум пачуццём, а пачуццё — прыгажосцю.

У той жа кнізе Масея Сяднёва знайшоў думку: *Відавочна, што трэба жыць там, дзе жывеш, дзе ты ёсць — выйграеш больш.* Гэта сказаў стары вандроўнік, стомлены пілігрым беларускай паэзіі. Ян Чыквін — беларускі паэт, які жыве ў Польшчы. І, магчыма, па самаму вялікаму і мудраму рахунку ў гэтым і ёсць яго самотны выйгрыш...

Ён, падтрымліваючы маю зацікаўленасць, запрасіў мяне ў госці. Новы этап пазнання, новая плынь уражанняў. У заснежаным Бельску, каля брамкі бацькоўскай хаты паэт сустрэў мяне. Была размова, быў палёт думкі, які без сучасных тэхнічных сродкаў было б цяжка ўзнавіць. Тыя пытанні і адказы, што ідуць ніжэй, — толькі невялікая частка захопленай гутаркі. Выхаплены яны з агульнай плыні, каб стварыць у чытача ўяўленне пра каларыт і значнасць асобы, якая каторы час плённа працуе на этнічна-культурным сумежжы.

Чамусьці рупіла запытаць у літаратара з багатым творчым вопытам, ці не папраўляе ён ранейшыя свае вершы, ці задаволены імі сёння. Ён нібыта быў падрыхтаваны да адказу:

— Я думаю, папраўляюць творы таму, што ёсць магчымасць аднова выдаваць іх у форме кніжак. У мяне, у нас *белавежцаў*, такой магчымасці няма. Раз выдадзенае і фактычна да яго мы больш не звяртаемся. Ды ў мяне і няма жадання папраўляць. Я старымі вершамі задаволены. Хоць гэта задаволенасць іншая, чымсьці задаволенасць новымі вершамі ці тымі, над якімі працуецца. У мяне няма адчування, што я ахвотна адрокся б ад сваіх тэкстаў. А, можа, гэта тым выклікана, што чытаючы нават свае ранейшыя вершы я ўкладваю ў іх іншы сэнс. Я прачытваю іх інакш, і яны мяне таксама ў нейкай ступені задавальняюць...

Тонкі лірык, Ян Чыквін, як вядома, пачынаў з празаічных твораў. Пісаў невялікія апавяданні — актуальныя для свайго часу, друкаваў іх пад псеўданімамі (да прыкладу, Янка Дубіцкі і іншыя). Але потым была толькі паэзія, і прытым амаль спрэс лірыка. Відаць, адсюль у мяне і ўзнікла наступнае пытанне: а ці не звярнуўся паэт да прозы ў паслейшую пару? Няўжо не было нутраной патрэбы на тое?..

— Часам хацелася, але заўсёды адкладваў. Каб сесці за прозу, трэба мець свежую галаву і вольны час. І, пэўна, яшчэ нешта, што не названа, не вызначана... Я лічу, што проза — з'ява дэмакратычная. Гэта трэба мець і нейкую ментальнасць, каб жыць жыццём іншых людзей. А займацца паэзіяй — элітарны занятак, які, відаць, спалучаны з маёй псіхікай. Мне лепш выказвацца ў паэзіі. А проза... Проза перакладальная, а паэзія — не. Паэзію можна прачытаць і перажыць, а на іншы спосаб яна неперакладальная...

Сапраўды, трэба перажыць, я б сказаў — выпакутаваць. Перажыць з паэтам і дзесьці змяніцца, стаць іншым. А потым, пазней, аглядаючыся на сябе ранейшага, здзіўляцца той неабсяжнай адлегласці, што лягла паміж табой цяперашнім і тагачасным. Так, ты яе адолеў на палётных крылах паэзіі, толькі будзь гатовы да неспакою, суму, болю...

*Ноччу, калі начныя ідэі*
*Зляцяць спраўляць па дню паміны,*
*Мне сніцца карал арабіны*
*І як з вады выплываюць лілеі...*

*Ах, гэта страха самоты,*
*Якой не страсці аж да скону.*
*Мне чуецца бусела клёкат*
*І як п'юць успацелыя коні.*

*Буслы і коні на волі.*
*І неспадзёўка ў грудзях, да болю,*
*Шчым зашчыміць, нібы так,*
*без прычыны...*
*А гэта, як цельца карала,*
*На душу апала*
*Сляза пякучая айчыны.*

**(Сляза арабіны)**

Гэта іх, *белавежцаў*, сітуацыя. Няпростая, калі не сказаць — цяжкая сітуацыя... Жывучы ў бацькоўскім краі, яны не могуць поўнасцю адчуць сваю духоўную еднасць з Радзімай. Бо яны — беларусы, што жывуць у Польшчы. Быў уздым грамадска-культурнай думкі, на хвалі якога і ўзнікла *Белавежа*, выдаецца беларуская *Ніва*, але ў душы *шчым шчыміць*...

Вершы Я. Чыквіна перакладалі на рускую мову (***Нёман***, **1994, н-р 1)**, выйшла некалькі зборнікаў на польскай мове, багата іх выдрукавала польскамоўная перыёдыка. Кола ягоных чытачоў досыць шырокае, бо зацікаўлены паэзіяй Чыквіна і Масей Сяднёў у Амерыцы, і Шырын Акінэр у Англіі і іншыя. І ўсё ж праблема чытач—паэт, праблема патрэбнасці творцы ў чытачу, узнікла ў гаворцы. Не магла не ўзнікнуць. Паэт у задуменні разважае:

— Праўда недзе пасярэдзіне. У працэсе — не, не патрэбен глядач. А потым, канешне, ёсць нейкае задавальненне. Я маю ўнутраную патрэбу пісаць вершы, ствараю для сябе. Я як бы змагаюся з нечым. Ведаю, адчуваю, што чагосьці такога, што зараз з'явіцца, няма ў прыродзе. І яно з'яўляецца... А потым ужо — публікацыя, разуменне, што нехта прачытвае. Але гэта не найважнейшае...

Так жыве і працуе паэт. Жыве ад творчасці, пачатак усяго для яго палягае ў ёй. Таму змены эпох і фармацый, агульных ідэалаў і арыенціраў не могуць засланіць гэтага святла.

# Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

# З нагоды свята Зямлі

Свята Зямлі з'яўляецца добрай нагодай для сустрэчы з роднай прыродай, наваколлем. Ці кожны школьнік чакае гэтага дня? Адказ бывае розны. Вядома, надта непрыемна прыбіраць чужое смецце. Але такая дзейнасць спрыяе нашай адукацыі. Мы пачынаем думаць над лёсам прыроды, сваім здароўем, над прыгажосцю роднай мясціны.

— Я заўсёды хвалююся за тых, што забруджваюць і атручваюць мой горад, — кажа Агнешка, шасцікласніца з Беластока. — Мне нават цяжка зразумець матывы дзейнасці такіх людзей. Яны ж, папраўдзе, атручваюць не толькі нявінныя раслінкі, жывёл, але ствараюць пагрозу для свайго жыцця.

Агнешка верыць, што яе аднагодкі, як і ўсе дзеці, якія прыбіраюць пасля дарослых у Свята Зямлі, самі не будуць забруджваць родную старонку. Пра тое, як цяжка жыць у атручанай і непрыбранай мясціне ўсе добра ведаюць. Вядома, што чыстае і здаровае наваколле, прырода спрыяюць лепшаму жыццю, навуцы, нашым поспехам. Нашы адносіны да прыроды паказваюць наш ступень цывілізаванага развіцця. І нашую любоў да роднай старонкі. **Зорка**



*Дзяўчаты з Бельска прыбіраюць Святую Гару Грабарку.* Фота Ганны КАНДРАЦЮК

# Ваяцкі здрой

***(заканчэнне; пачатак у 36 нумары)***

Убачылі яны ворагаў: узняў вершнік аберуч востры меч, а конь закусіў цуглі і ўздыбіўся, ды так рынуліся яны ў гушчу захопнікаў. Юнак-ваяр іх направа і налева мячом сячэ, а конь капытамі топча ды зубамі рве.

Біліся яны так, змагаліся з самага ранку і аж да змяркання. Пабачылі наезнікі, што тут не жарты — не адолець ім незвычайнага ваяра. Кінулі яны захоплены палон ды нарабаванае дабро, павярнулі сваіх коней і — ходу з тутэйшай зямлі. А вершнік-юнак на кані-жарабцы гнаўся за імі датуль, пакуль не зніклі яны за межавымі капцамі.

Змораныя і ваяр і ягоны конь зноў спыніліся на той самай рэчцы і да таго ж самага здрою схіліліся, каб смагу спагнаць. Але ж не паспелі яны і крынічнай вады прыгубіць, як з віру ўздыбілася агромністая хваля, хлюснула на бераг ды вершніка з канём у бездань змыла.

Безліч гадоў з таго часу прамінула. Абмялела Ласасянка да таго, што вада ў ёй ледзь па калена чалавеку сягае. Ваяцкі здрой таксама ледзь сочыцца з-пад куста ракіты, а бяздонны вір амаль зусім пяском занесла. Але вада ў ім улетку па-ранейшаму такая сцюдзёная, што аж у зубы заходзіць, а ўзімку ён ніколі не замярзае. Цяпер там гаспадыні з навакольных сялібаў малако халодзяць. Штодня ранкамі і вечарамі прыносяць туды або вымаюць адтуль поўныя конаўкі сырадою. І калі Ласасянка патанае ў густой імгле, з Ваяцкага здрою ўражаным дзяўчатам і маладзіцам явіцца статны юнак-ваяр з аберуч узнятым мячом ды на імклівым кані з развеянай грывай. Праплываюць яны над паплаўцамі і кустамі ды знікаюць недзе там, на ўсходзе, дзе рэчка Ласасянка, як кажуць, улівае свае воды ў магутны Нёман, на беразе якога высяцца ў Гародні рэшткі муроў Вітаўтавага замка.

**Мікола Гайдук**
*Малюнак*
*Пятра Дзямянюка*



# Жыве Беларусь!

Падчас першай сусветнай вайны ў акупаванай немцамі Беларусі пачалі ўзнікаць усялякія грамадскія арганізацыі. Актывізавалася перш за ўсё інтэлігенцыя, памешчыцкае асяроддзе, а пасля, пад уплывам падзеяў у Расіі, рабочыя і сяляне. Для пару соцень тысяч беларусаў, салдатаў рускай арміі, вайсковая служба стала школай палітычнай адукацыі. Лозунгі нацыянальнай і класавай свабоды гучалі на Беларусі штораз мацней з кожным месяцам вайны.

У пачатках 1916 года ўзнікла Беларускае таварыства дапамогі ахвярам вайны, якога мэтай было клапаціцца за суродзічаў, якія пацярпелі ў выніку вайсковых дзеянняў, перасяленняў, дапамагаць дзецям, якія патрацілі сваіх апекуноў. Хутка пачалі ўзнікаць таксама арганізацыі культурнага і асветнага характару — Беларускі клуб, Літаратурна-асветнае аб'яднанне „Золак", Цэнтральны саюз беларускіх нацыянальных і грамадскіх арганізацый. На захадзе Беларусі актывізаваліся таксама сацыялістычныя і камуністычныя арганізацыі, якіх членскую масу ў большасці складалі беларусы і яўрэі. Цэнтрам беларускага руху на заходнім баку лініі фронту была Вільня.

На тэрыторыі акупаванай рускай арміяй таксама наступала хваля беларускай актыўнасці. Адраджалася Беларуская сацыялістычная грамада, узнікалі новыя арганізацыі — Беларуская народная грамада, Беларускі нацыянальны камітэт, Саюз беларускай дэмакратыі, Каталіцкая дэмакратычная партыя, Народная дэмакратычная партыя. Узнікалі ўсялякія прапановы і праграмы наконт будучыні Беларусі. Дзеля акрэслення агульнабеларускіх дзяржаўных інтарэсаў у красавіку 1917 года быў скліканы ў Менску Беларускі нацыянальны з'езд з удзелам амаль усіх партый і арганізацый. Упершыню прадстаўнікі палітычных і грамадскіх груп беларускага народа вырашылі самі акрэсліць свой нацыянальны лёс. Гэта было пасля лютаўскага перавароту ў Пецярбургу, калі Расія ўступала на дэмакратычны шлях. Беларускі з'езд вырашыў тады, што Бацькаўшчына можа існаваць як аўтаномная адзінка ў межах рускай дэмакратычнай дзяржаўнасці.

# Міфы старой Беларусі

**4. Бялун**

Бялун — бацька неба, бог дабра. Звесткі пра гэтага міфалагічнага бога запісаў у XIX ст. на Палессі польскі этнограф Адам Кіркор.

Паводле вераванняў нашых продкаў Бялун мае выгляд сівога дзеда. Часам сыходзіць ён на зямлю і жыве ў жыце ля дарогі. Ён з белай доўгай барадой, белым адзенні і з кіем у руках. Бялун творыць адно дабро. Людзям паказваецца толькі ўдзень пры сонечным святле. Калі Бялун сустрэне ў дрымучым лесе вандроўніка, які заблудзіўся, ён дапаможа аднайсці дарогу. Існуе нават і прымаўка „Без Белуна цёмна ў лесе".

У час жніва ён любіць паяўляцца на нівах, часам дапамагае жнеям.

Часам ён з'яўляецца ў жыце з вялікім мехам на носе. Высачыўшы добрага работніка ці работніцу ён падманьвае да сябе рукою і просіць уцерці яму нос. Як толькі той дакранецца да носа, з меха раптам сыплецца золата і Бялун знікае. Пра такога шчаслівца кажуць беларусы, што „пасябраваў з Белуном".

# Гданьскія ўражанні

У канцы мая невялікая група вучняў Віленскай беларускай школы і сяброў ТБШ наведала Гданьск. Там яны сустракаліся з гданьскімі ды беластоцкімі беларусамі, мелі многа цікавых экскурсіяў. За гэты час выпадковыя ўражанні паспелі выветрыцца, а засталіся толькі самыя-самыя цікавыя, якія і прапануюць сёння вам, шаноўныя чытачы, настаўнік Сяргей Вітушка, вучні Дзіма Маляўка ды Інга Алітойць:

**Самае дзіўнае**

**Інга Алітойць**: Мяне найбольш здзівіла, што мы заехалі за тысячу кіламетраў ад радзімы і пачулі там... беларускае слова! Бывае, у Беларусь прыедзеш і не пачуеш, а гданьскія беларусы так хораша гавораць — зберагі сваю родную мову. Запомнілася мне сустрэча з Мацеем Канапацкім, былым вучнем Віленскай беларускай гімназіі ды іншымі землякамі.

**Самае яркае**

**Дзмітры Маляўка**: Мяне ўразіў адзін экспанат у нацыянальным музеі — невялікі макет карабля, зроблены яшчэ ў XVIII ст. Там усё — як у сапраўднага, кожная драбніца! Нават малюсенькія гарматы стралялі па-сапраўднаму. Гэтыя макеты выраблялі дзеці — так яны рыхтаваліся, калі станунь дарослымі, плаваць па моры на караблях. Гданьск — горад партовы, там усё звязана з морам.

**Сяржук Вітушка**: Да гэтага часу ў мяне ўвачу стаіць высачэзная вежа Марыяцкага касцёла. У нас нічога падобнага вы не сустрэнеце. Наша архітэктура, я б сказаў, суразмерная чалавеку, на віленскіх вуліцах адчуваеш сябе ўтульна, а тут такія грандыёзныя памеры! Гданьчукі ганарацца, што іхні касцёл самы высокі сярод гатычных касцёлаў ва ўсёй Еўропе. А мяне, пакуль узбіраўся на гэтую вежу (наверсе ёсць пляцоўка для агляду), неадчэпна свярбіла думка: „Ну навошта гэткая нялюдская вышыня?" Потым мне патлумачылі, што гэтага вымагала ментальнасць набожных продкаў. Ім здавалася — чым вышэй, тым бліжэй Бога...

**Самае вясёлае**

**Інга**: Праграма нашае вандроўкі спачатку трохі напалохала: музеі, музеі, музеі. Ці не задумалі нашыя настаўнікі занудзіць нас тут аднымі музеямі. Але на другі дзень прыехалі хлопцы і дзяўчаты з Беласточчыны. Яны мелі гітару ды спявалі розныя песні. Найбольш развесялілі нас беларускія народныя песні, праспяваныя на новы лад — на матыў „блюза", „рэга", „макарэны". Потым кожны вечар мы пасля вячэры збіраліся разам і весяліліся дапазна.

**Самае зайздроснае**

**Дзмітры**: Тыя хлопцы і дзяўчаты з Беласточчыны маюць сваю газету. Гэта газета ў газеце — старонка „Зорка" ў беластоцкай „Ніве". Выходзіць яна кожны тыдзень. Яны самі там усё пішуць, малююць, фатаграфуюць. Часта ладзяць такія сустрэчы, як гэтая ў Гданьску. А ў нас у школе гэта не атрымалася.

**Сяржук**: Гданьск падчас апошняй вайны быў знішчаны на 80%. Значыць увесь стары горад — усе касцёлы і дамы адбудаваны нанова! Здаецца тыя ж самыя камуністы былі ў Польшчы, што і ў нас. Толькі ў Беларусі часцей старыя помнікі не адбудоўвалі, а руйнавалі дашчэнту.



Сябры з Вільні і Беласточчыны. Фота Ганны КАНДРАЦЮК

**Самае смачнае**

**Інга**: Калі паехалі ў госці ў кашубскую школу, а потым у іхні этнаграфічны музей — цэлы дзень ліў дождж, абед ля вогнішча сарваўся і пад вечар усе былі страшэнна галодныя. Тады нашая кіраўнічка Лена купіла ў кавярні, што працуе пры музеі, кашубскую нацыянальную ежу — хлеб з салам.

**Самае замежнае**

**Сяржук**: Я адчуў, што мы „за мяжою", калі ехалі да Гданьска праз старыя прускія землі. Маляўнічыя пагоркі, лясочкі, вазёрцы — прырода, як і ў нас, а вось сялібы зусім не такія. Каб табе дзе якая куча смецця, аблупленая сцяна, брыдкі пахілы хляўчук — барані Бог! Дамы стаяць як цацкі. На панадворках — ПАРАДАК! Якая „мяжа" замінае нам завесці такі парадак у сябе?

*„Рунь", 1997, н-р 4 (Вільня)*

# Веліканы з Лох-Шыла

*(шатландская казка)*

Паміж сінімі гарамі, недалёка ад Лох-Шыла, згубілася вузкая даліна. Роўныя і зялёныя палі ў гэтай даліне і гладкія схілы навакольных гор, між тым як па суседству ўсе даліны ўсыпаны мноствам камянёў.

Шмат гадоў назад і гэтая вузкая даліна была неўрадлівай, усе сцяжынкі былі загрувашчаны вялікімі валунамі, усюды тырчэлі абломкі скал і вострыя камяні. Людзі ў даліне жылі галадаючы — не было дзе ім жыта сеяць, не было дзе пасвіць худую жывёлу. А ў маленькай хатцы ля падножжа гары жыў стары казачнік. Але ён не толькі ўмеў казкі складваць, а наогул славіўся сваёй мудрасцю. Аднойчы жыхары даліны прыйшлі да яго прасіць парады.

„Навучы, мудрэц, што нам рабіць, — сказалі яны. — Няма людзей бяднейшых за нас, бо жывём мы ў цеснай даліне, заваленай каменнем. Жыта ў нас рэдка даспявае, а жывёлу крадуць зладзеі, якім проста схавацца за вялікімі валунамі. Няўжо не знайсці нам такой мясціны, дзе схілы не такія камяністыя і зямлю лёгка апрацоўваць?"

Стары мудрэц пачуў гэтыя скаргі, адкаціў некалькі камянёў, і пад імі паказалася зямля.

„Нідзе вы не знойдзеце зямлі больш урадлівай, чым у нашай даліне", — адказаў ён.

„Можа, яно і так, — сказвалі жыхары даліны, — ды не пад сілу нам ачысціць яе ад гэтых велізарных камянёў".

А трэба сказаць, што ў тыя часы на зямлі яшчэ вадзіліся веліканы. І па суседству з далінай, высока ў гарах, жылі два сярдзітыя веліканы, якія пастаянна спрачаліся, хто з іх дужэйшы. У той жа дзень стары мудрэц падняўся ў горы і сказаў кожнаму з іх:

„Хопіць вам сварыцца ды спрачацца. Канечне, я толькі бедны стары, але, наколькі я разумею, спрэчку вашу вырашыць не цяжка. Спусціцеся ў даліну і пакажыце людзям сваю моц. А я задам вам задачу, каб вы памераліся сілай, і тады ўбачым, хто з вас дужэйшы".

Раніцай зашумела, загуло ў гарах — гэта веліканы крочылі ў даліну. Стары мудрэц і ўсе жыхары выйшлі ім насустрач.

„Ну, пабачым, — сказаў стары, — хто з вас можа закінуць камень на вяршыню гары".

Веліканы засмяяліся, паднялі па валуну з такой лёгкасцю, быццам гэта былі дробныя каменьчыкі, і закінулі іх на самую макаўку гары.

„Спрытна! — пахваліў стары. — Ніколі не бачыў, каб камяні закідвалі так лёгка. А цяпер вазьміце ж большыя камяні".

Веліканы паднялі валуны велічынёй у сем чалавечых галоў і без цяжкасці закінулі іх за гару. Людзі пачулі аддалены грукат кінутых камянёў і задрыжалі ад страху.

„Не зразумееш, хто з вас дужэйшы, — сказаў стары мудрэц. — Давядзецца задаць вам новую задачу. Бачыце вы гэтыя камяні велічынёй з дом? Паглядзім, колькі кожны з вас зможа кінуць такіх камянёў спярша левай, а потым правай рукой".

Веліканы зараз жа ўзяліся за справу. Падымаючы велізарныя валуны левай рукой, яны закідвалі іх за высокія горы. Так яны рухаліся па даліне, адрывалі валуны ад зямлі, і такі падняўся гул і грукат, быццам бура разгулялася.

Стаміўшыся кідаць камяні левай рукой, веліканы пачалі шпурляць іх правай і шпурлялі да самага вечара. Хутка ў даліне не засталося ні аднаго каменя. А веліканы так змардаваліся, што ледзь стаялі на нагах. „Клянуся сямю яркімі зоркамі, — сказаў стары, — ніяк не зразумееш, хто з вас дужэйшы, — мы ўжо з ліку збіліся. Ідзіце ж у горы і знайдзіце камень, які ўпаў далей за іншыя, а потым вяртайцеся, і мы пабачым, хто з вас зноў закіне яго гэтак жа далёка. Вось тады і даведаемся, хто з вас дужэйшы".

Працягваючы шчыра спрачацца, прастадушныя веліканы пайшлі шукаць камень, які ўпаў далей за іншыя. Напэўна, яны шукаюць яго і па сённяшні дзень, таму што так і не вярнуліся. А жыхары даліны, не марнуючы часу, узяліся апрацоўваць зямлю, ачышчаную веліканамі. І цяпер няма нідзе лепшай збажыны, чым у вузкай зялёнай даліне паблізу Лох-Шыла. Але да сённяшняга часу, калі вецер даносіць у даліну далёкі гул з-за гор, людзі смяюцца і кажуць адзін аднаму: „Гэта дурныя веліканы ўсё спрачаюцца, хто з іх дужэйшы".

# Польска-беларуская крыжаванка № 40

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы (з наклееным кантрольным талонам) на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Nóżka / Chór, Węch | | | | Prawnik / Pępek, Dama | | Łaska / Hit | |
| | | | Duga / Wrzątek | | | | |
| Malarstwo / Aksamit, As | | | | | | | |
| | | | | | | | |
| | | | | | | Despota, tyran | |



Талон „Зоркі" № 40
05.10.1997

# Беласточчына горш Прыднястроўя

Напісаць пра II З'езд беларусаў свету маральна прымусіла мяне адгалоска Ніны Цыванюк, адной з гераінь сёлетняга мерапрыемства, якая прыпісвае сабе манаполію на праўду, пішучы: „А цяпер паслухайце, як было сапраўды. Таго, што рабілася на з'ездзе, апісаць і расказаць немагчыма. Гэта трэба было ўбачыць на свае вочы і пачуць на свае вушы". Дык вось тыя, што пісалі пра з'езд, бясспрэчна на з'ездзе былі, усё бачылі на свае вочы і чулі на свае вушы. Алег Латышонак і Юстын Пракаповіч (не ведаю ці хто-небудзь яшчэ спісаў свае ўражанні для „Нівы" ці проста для сябе і для гісторыі) і апісалі, як яны ўсё тое ўспрынялі, што адбывалася падчас з'езду і не толькі, што бачылі і што чулі менавіта.

Адносна праўды, дык гэта такая з'ява, што ўсе кажуць як было сапраўды, а на самай справе сутнасць праўды такая, што яна ёсць суб'ектыўнай. Хіба што гэта „святая праўда", якую ўспрымаем на веру, як дадзеную Богам. Над ёй не дыскутуем. Кожная праўда, апрача „святой", мае сваё адноснае вымярэнне. Па-польску кажучы „punkt widzenia zależy od punktu siedzenia".

Для мяне справаздачы А. Латышонка, Ю. Пракаповіча і Ніны Цыванюк з'яўляюцца суб'ектыўным апісаннем падзеяў. Кожны мае на тое права ў часы дэмакратыі, таму і адгалоскі Н. Цыванюк апублікавала, як некаторыя называюць, рэвізіяніцкая „Ніва". Здзіўляе мяне толькі тон выказванняў спадарыні Ніны Цыванюк, якая, дарэчы, не хоча нікога дзяліць, і не хоча Чачні ні Югаславіі ў Беларусі.

Мне прыйшлося чуць выступленне спадарыні Ніны Цыванюк з трыбуны з'езду: пра 35 гадоў праспяваных для Беларусі, пра выгадаваных на добрых людзей сыноў і ўнукаў і пра недахоп праваслаўных акцэнтаў — агульна кажучы — на з'ездзе.

Прыйшлося мне таксама чуць ад седзячых побач людзей пытанні: „А што гэта за цётка? Ці гэта тая, што ўсхвальвала Лукашэнку?" ды яшчэ больш канкрэтныя выказванні наконт спадарыні Цыванюк.

А асабіста дасталася мне за спадарыню Цыванюк (як у нас кажуць: „за цётку") на экскурсіі Мір—Навагрудак—Свіцязь — Стоўбцы. Калі ўдзельнікі даведаліся, што я з Польшчы, пасыпалася ў мой адрас крытыка: „Што гэта дзеецца? Беласточчына, якую мы дагэтуль лічылі беларускім П'емонтам, падтрымлівае публічна Лукашэнку". Прыйшлося мне даказваць, што не ўсе аднолькава думаюць, што ёсць розныя беларусы на Беласточчыне, добра, што ўрэшце прынамсі прысутныя на з'ездзе пачулі простых беларусаў з Беласточчыны, якія спяваюць беларускія песні, выхоўваюць дзяцей на добрых людзей, вераць у праваслаўнага Бога і баяцца ўсякай завірухі тыпу Чачні і Югаславіі. Паколькі цётка Ніна Цыванюк толькі сабе прыпісвае манаполію на праўду, хачу дадаць, што зараз кожны мае права на свае думкі і дзеянні. Калі нехта называе гэта дзяленнем беларусаў, павінен ведаць, што да гісторыі адышлі тыя часы, дай Бог, каб ніколі больш не вярнуліся, калі людзей з іншымі поглядамі чакала турма ці смерць. Ды што гэта за нацыя, калі ўсе аднолькавыя, „непадзельныя", тады нічога новага не нараджаецца: проста кажучы, нават дзіцё нараджаецца з кахання мужчыны і жанчыны, а не з кахання асобін аднолькага полу. Пры тым цётцы Ніне, ды не толькі, трэба ведаць, што беларусы пачалі прабуджацца нацыянальна, асабліва маладыя, якія ездзяць на Захад і бачаць, як незалежна можна сябе паводзіць у сваёй дзяржаве, і як нармальна можна жыць, калі ёсць свая дзяржаўная мова і дэмакратычна выбраныя ўлады. Таму няма што здзіўляцца тым, што крычаць „ганьба", а трэба іх падтрымліваць за адвагу, калі мае быць гэта незалежная Беларуская дзяржава.

Наконт параўнання Беласточчыны з Прыднястроўем — мне здаецца, што Беласточчына паказала сябе горш чым Прыднястроўе. Прыйшлося мне размаўляць з беларусамі з Малдовы. Становішча іх непараўнальна горшае чым беларусаў у Польшчы. Пасля распаду Савецкага Саюза яны там, прыехаўшы на працу даўней, аказаліся пазбаўленымі малдоўскага грамадзянства. Іх савецкія пашпарты не прызнаюцца, малдоўскіх ім не выдаюць, таму і просяць яны А. Лукашэнку даць ім хаця грамадзянства Беларусі. А то жывуць як апатрыды. Калі няма ў іх грамадзянства, вядома, пазбаўлены яны шмат якіх правоў.

З такога пункту гледжання на Беласточчыне камфортная сітуацыя, каб толькі не пашкодзіла ёй публічная падтрымка Лукашэнкі на II з'ездзе беларусаў свету і каб пра нас зноў не казалі: „Białorusini — to komuniści".

Адносна мэты паездкі ў Беларусь („не ведала, што мэта маёй паездкі — гэта ліць памыі на прэзідэнта Рэспублікі Беларусь") — то трэба ведаць цётцы Ніне, што ехала на З'езд беларусаў свету, які арганізавала Згуртаванне беларусаў свету „Бацькаўшчына" — грамадская арганізацыя, якая існуе дзеля захавання беларусаў і беларускасці ў свеце, якіх бы поглядаў яны не былі. З'езд праводзіўся на асновах самафінансавання і да яго арганізацыі ніякага дачынення не мела адміністрацыя А. Лукашэнкі, якая ўсё ж такі намервалася выкарыстоўваць яго ў сваіх мэтах маніпуляцыі беларусамі свету. І мне здаецца, што цётка Ніна з-за несвядомасці гэтай маніпуляцыі паддалася і стала яе ахвярай.

Наконт „Аўтасана" — добра, што БГКТ назбірала столькі гасцей ахвотных ехаць у Менск, бо хапіла мець ахвоту, каб паехаць. Калі я пабачыла „Аўтасан", прыпомніўся мне эпізод з апошняга Фестывалю беларускай песні ў спортзале клуба „Влукняж" у Беластоку. Прыехала на яго таксама старшыня Рады Згуртавання беларусаў свету „Бацькаўшчына" Ганна Сурмач. Сустрэліся мы пры ўваходзе ў залу. Яе не хацелі ўпусціць здаровыя хлопцы, якія стаялі на варотах. Білет купіць перад канцэртам было немагчыма. Ганна Сурмач паказвала пашпарт, тлумачыла хлопцам, кім яна ёсць, што гэта за арганізацыя, а тыя цвёрда яе не пускалі. Калі б не Алесь Палескі, спадарыні Сурмач пэўна прыйшлося б адмовіцца ад канцэрту. Відаць, хутка яна пра тое ўсё забыла, бо лідэраў БГКТ павіншавала з юбілеямі і ўвяла ў Раду „Бацькаўшчыны", а таксама дала голас Яну Сычэўскаму і Ніне Цыванюк, каб захвальвалі як нам добра тут жывецца, як красуецца беларуская школа і мова і па ўсёй Беласточчыне плыве беларуская песня.

**Лена Глагоўская**

PS. Калі чытач хоча пазнаёміцца з маёй суб'ектыўнай справаздачай са з'езду, калі ласка, зазірніце ў „Czasopis" 1997, н-р 9.

# Заўвагі наконт II З'езду ЗБС

Едучы на II З'езд беларусаў свету „Бацькаўшчына" я спадзяваўся, што стане ён крыніцай станоўчых стымулаў для дзейнасці беларусаў у замежжы, што будзе ён форумам абмену вопытам. Думаў я таксама, што айчынныя і замежныя дэлегаты ўвойдуць у састаў праблемных камісій Згуртавання, напрыклад, па справах бізнесу (для наладжвання гаспадарчых кантактаў) ці ахове здароўя (для зраўнання аплат замежнікам за лячэнне ў санаторыях з грамадзянамі Беларусі). Рэчаіснасць аказалася зусім іншай, што выклікала ў мяне шок ужо на пачатку з'езду, калі прадстаўнік Адміністрацыі Прэзідэнта прабаваў прачытаць пасланне Аляксандра Лукашэнкі да замежных дэлегатаў (бо гэта ж ім у першую чаргу было арганізавана гэтае мерапрыемства). У гэтым месцы пытаю арганізатараў з'езду — прэзідэнта ЗБС і старшыню Рады — хто экстрэмістам і клакёрам даў права свістамі, дзікімі крыкамі і тупаннем перашкаджаць дэлегатам і запрошаным гасцям заслухаць прэзідэнцкае пасланне? Падобная атмасфера спадарожнічала іншым выступленням, калі іх змест не падабаўся апазіцыянерам і экстрэмістам.

У зале дэлегатаў і гасцей з замежжа было менш, чым запрошаных кіраўніцтвам Згуртавання мясцовых актывістаў. Хто такія гэтыя людзі? Каго яны прадстаўлялі? А цяпер прывяду некалькі скандальных прыкладаў, выкліканых гэтымі асобамі.

Калі Ніна Цыванюк ціха выказала сваё незадавальненне спосабам рэагавання на выступленні з трыбуны і параіла весці сябе культурна, так як гэта робяць на Захадзе (пакінуць залу), тады апазіцыянер у народным уборы, што сядзеў ззаду, абазваў яе маскалькай. Думаю, што арганізатары павінны сп. Цыванюк перапрасіць за гэты інцыдэнт. Здзівіла мяне, што прывітанні ўдзельнікам з'езду перадаў толькі уніяцкі святар, і што ў зале не было духоўных іншых веравызнанняў. Відаць, арганізатары забылі або не схацелі запрасіць прадстаўнікоў праваслаўя, каталіцызму і рэфармаваных канфесій. На другі дзень сп. Цыванюк запытала пра гэта прэзідыум з'езду, але афіцыйна ніхто не даў адказу. Затое выскачыў як Піліп з канапель няпрошаны і некампетэнтны той жа святар-уніят. Гэты факт сам па сабе паказвае, хто з'яўляецца духовым апекуном апазіцыі. Прашу не ігнараваць гэтага.

Ніна Цыванюк сказала ў Беларускім тэлебачанні, што незадавальненне можна выказаць у культурны спосаб. На другі дзень з боку экстрэмістаў пачула непрыхільныя каментарыі, хаця б такі, што Лукашэнка купіў яе за касцюм. Прытым гаварылі яны, што Лукашэнка забівае іх і штрафуе. Я здзівіўся, бо не чуў, каб прэзідэнт Лукашэнка забіваў апазіцыянераў, а штрафуюць нават і на Захадзе, калі хтосьці не прытрымоўваецца законаў. Іншы чалавек абазваў яе маскалькай, бо патрабавала запрасіць праваслаўнага свяшчэнніка. Прызнаўся ён, што ягоныя бацькі былі праваслаўнымі, аднак ён з'яўляецца уніятам, бо праваслаўем у Беларусі кіруе маскаль. Неразумны гэта аргумент, калі ён не заўважае, што беларускімі уніятамі загадвае Ватыкан, узначалены польскім папам. У гэтым змаганні мэта адна — разбіць у Беларусі праваслаўны маналіт, а падзеленае грамадства хутчэй можна прыніжыць і асіміляваць. Пазней сп. Цыванюк заатакавалі тры жанчыны, ад які абараніў яе Пётр Прышчэпка.

Не спадабалася мне выступленне аднаго з прамоўцаў, які цытаваў працы Леніна наконт узброенай барацьбы і заклікаў ажыццяўляць вучэнне правадыра. Адчуў я гэта як падбухторванне да змагання з ружжом у руках. Мае меркаванні пацвердзіла размова з віленскім беларусам, колішнім прыхільнікам БНФ і Пазьняка. Адышоў ён ад Фронту пасля таго, калі яго лідэр заклікаў у Вільні звергнуць сілай прэзідэнта Лукашэнку. Абазначае гэта, што такія людзі не шкадавалі б пралітай крыві простага беларуса, каб толькі здабыць уладу і ўзалежніць гаспадарку краіны ад замежнага капіталу, каб стварыць сітуацыю накшталт Босніі і беларускія праблемы ўчыніць міжнароднай справай.

Чарговы эпізод. Калі беларус з Украіны стаў гаварыць на рускай мове, пачалі яму крычаць, каб прамаўляў ён па-ўкраінску. Значыць, апазіцыянеры не любяць, ненавідзяць рускай мовы, якая так моцна сплецена з культурай і мастацтвам Беларусі, Еўропы і ўсяго свету. Яны не хочуць зразумець, што беларусы свету ведаюць рускую мову. Нават у час перапынкаў часцей чутны былі размовы на рускай, чым на беларускай мове. Здзівіла мяне таксама выступленне прадстаўніка ўрада, які паабяцаў уніятам выдаць Біблію на беларускай мове за дзяржаўныя грошы. Лічу, што гэта выкліча ланцуговую рэакцыю і ўсе іншыя канфесіі могуць стаць патрабаваць, каб іхнія літургічныя кнігі таксама выдаваліся за кошт дзяржаўнай казны.

У сувязі з тым, што Згуртаванне беларусаў свету было створана апазіцыяй і экстрэмістамі не дзеля дапамогі беларусам у замежжы, як нам дагэтуль здавалася, а толькі для палітычнай барацьбы з актуальнай уладай, хачу задаць кіраўніцтву арганізацыі некалькі пытанняў:

— хто адказвае за тое, што дзейнасць Згуртавання не адпавядае статуту?

— як гэта сталася, што мясцовых экстрэмістаў і клакёраў было больш, чым дэлегатаў і запрошаных гасцей?

— чаму прэзідыум з'езду або перавыбранае кіраўніцтва арганізацыі не асудзілі аўтараў эксцэсаў і не запрапанавалі прыняць пастанову аб перапросінах за ўсе інцыдэнты?

— чаму апазіцыя не бярэ пад увагу гістарычна-культурных абумоўленасцей, звязаных з Расіяй і былым СССР, ды сілавымі метадамі хоча ўвесці беларускую мову ў публічнае карыстанне, нягледзячы на тое, ці хочуць гэтага ці не самі беларусы? Па-мойму, гэта яшчэ адна зручная прычына для змагання за ўладу з легальным урадам.

**Канстанцін Масальскі**

PS. Спаглядаючы з акна аўтобуса на беларускія калгасныя палі прыпомніліся мне такія вось факты. У Латвіі калгасная зямля ляжыць аблогам, збожжа імпартуецца, квітнее беспрацоўе, а людзі не маюць чаго есці. У Беларусі палі засеяны, зямля дае плён, а людзі маюць працу. Хіба апазіцыя хоча, каб Беларусь стала падобнай на Латвію, каб старшыня калгаса стаў фермерам, які без сумненняў выкінуў бы людзей з работы.

**К. М.**

**Ад рэдакцыі:** Меркаванні аўтараў допісаў не адлюстроўваюць стаўлення рэдакцыі да закранутых праблемаў.

# „Сапраўдныя беларусы” на з’ездзе „Бацькаўшчыны”

Прачытала я адказ сп. Ніны Цыванюк („Ніва”, н-р 36, 1997) на артыкул Алега Латышонка і ўсхвалявалася не менш, чым на самым з’ездзе. Не ведаю, што напісаў А. Латышонак, але з выказвання сп. Н. Цыванюк відна, што Латышонак на з’ездзе глядзеў, відаць, адным вокам і слухаў адным толькі вухам. Або — бачыў і чуў толькі тое, што хацеў. Праўду кажа сп. Цыванюк — апісаць і расказаць што там рабілася немагчыма. Я ўвесь час спачувала Радзіму Гарэцкаму і Ганне Сурмач, што ў такіх абставінах прыйшлося ім праводзіць з’езд. Усё гэта, несумненна, хвалявала ўдзельнікаў з’езду. Але не тая „супрацьпажарная мітусня”, а паводзіны маладых людзей, якія гурбою ўварваліся ў залу з выразнай мэтай скаламуціць з’езд. Сваю прысутнасць зазначылі яны свістам, крыкамі і тупаннем у падлогу. Мне напаміналі яны нашу польскую Лігу рэспубліканскую. Тыя ж метады дзеяння. Назіраючы за іхнімі паводзінамі мне падумалася: калі гэта адзіныя метады іхняга апазіцыйнага дзеяння, то, зразумела, што яны не дачакаюцца шырокай падтрымкі ў народзе. Гэтыя крыкуны не толькі не дазволілі адчытаць пасланне прэзідэнта Лукашэнкі, але высвісталі і іншых прадстаўнікоў дзяржаўных улад — міністра культуры і іншых. Ну, гэта неяк можна зразумець — ваюючь з прэзідэнтам і з уладамі. Але, вось на трыбуну ўвайшоў чалавек (з Прыднястроўя якраз) інвалід, апіраючыся на кастылях. Хацеў выказаць праблемы тамашняй беларускай дыяспары. У яго несумненна беларуская душа і схільнасці да краіны скуль ягоныя карэнні. І што?! Нічога не мог сказаць. Бяда ў тым, што звярнуўся з просьбай, каб дазволілі выказацца па-руску, бо ён ніколі не вучыўся беларускай мове. Крыкуны не дапусцілі. Пры чым тут мова!? Варожымі воклічамі супраць расейскай мовы і яго самога змусілі прамоўцу сысці з трыбуны. З якім пачуццём ён сышоў і што павёз у сэрцы назад? Ці адважыцца ўжо калісь прыехаць на такі з’езд? Наіўныя ўсе тыя апазіцыянеры. Ім напэўна здавалася, што беларуская дыяспара сабралася, каб дапамагчы ім ваяваць з прэзідэнтам. Магчыма, што з’езд „Бацькаўшчыны” мог бы прыняць нейкую рэзалюцыю аб сітуацыі ў вялікай айчыне, якая хвалюе беларускую дыяспару, але толькі тады, калі не было б гэтага жудаснага цырку, які там адбываўся.

Дэлегаты на з’езд прыехалі са сваімі праблемамі. Былі і такія справы, з якімі звярталіся да цэнтральных органаў беларускай дзяржавы, напрыклад, звярталіся з просьбай адкрываць консульскія аддзелы ў тых краінах, дзе жыве шмат беларусаў, а пасольствы знаходзяцца далёка ад іх. Прасілі дасылаць літаратуру, падручнікі на беларускай мове, часопісы і іншыя дапаможнікі. Пачулі мы і аб сумных справах на Беларусі. Слаба развіваецца беларускае школьніцтва. Сумна было слухаць, што адзінаму поўнасцю беларускаму ліцэю ў Мінску пагражае нябыт. Вось гэта тэмы для барацьбітоў за беларускія справы. Гутарыла я з маімі знаёмымі ў Мінску, інтэлігентамі. Праўда — не журналісты, не пісьменнікі яны, але інжынеры, лекары, настаўніца. Вось што я пачула: Апазіця? Многія з іх гэта беларусы напаказ. Асабліва маладыя. Мода на мяцежны стыль жыцця. Бяда ў тым, што на беларускім палітычным гарызонце пакуль не відна індывідуальнасці, якая магла б стаць лідэрам. Тыя, што ўжо прайшлі праз палітычную сцэну, не паказалі сябе як сталых, мудрых палітыкаў. А новых не відна, сказалі мае размоўцы. Але гэта ёсць нашая нацыянальная слабасць — у нас усё не хапае „нашых імператараў і каралёў”, — сказаў адзін з нашых эміграцыйных паэтаў.

**Алена Аншэўская**

# Выбары пасля вяселля

*Нашто мяне агітаваць?*
*Я ўжо даўно сагітаваны!*
*(Павел Місько)*

Трапіла я ў склад выбарчай камісіі ў цэнтры Беластока. Запрапанавала туды мяне БДА. Яшчэ адна асоба тут была „зялёная” — студэнтка эканомікі, якая ўвайшла з рэзерва. Усіх нас — дзевяцёра. На першым перадвыбарчым пасяджэнні адразу мяне распыталі, з якой я арганізацыі, хоць самі мне не прадставіліся. Бо і не мусілі — шэсць асоб ад 25—20 гадоў пастаянна ўдзельнічаюць у такіх камісіях. Малады лекар быў ад СЛД, што выклікала чамусьці здзіўленне ў „старых” камісіянтаў.

Было сімпатычна з самага пачатку. Пані Данеля, якую мы выбралі на старшыню, сказала: „Мы тут мусім быць поўнасцю беспартыйнымі — аб’ектыўнымі і справядлівымі. Не мусім глядзець сабе на рукі, а пільна працаваць, каб не памыліцца”. Найбольш пра аб’ектыўнасць гаварыў быў сімпатычны пан у кашулі нарасхрыст з вялізнымі літарамі AWS (вядома, у час выбараў ніхто з нас не мог ужо насіць эмблемаў сваіх палітычных сімпатый). Спадар той меў прозвішча (*cóż zrobisz, każdy musi mieć jakieś nazwisko...*, — шчыра перайма́ўся) ў тыпе *Шарамецеў*. Да мяне ён аднёсіўся з сімпатыяй, што мяне аж насцярожыла, бо адразу дапытваўся, што я за адна, але, аказалася, мой дзядзька трыццаць гадоў таму наймаў у яго кватэру. Куды ні глянь — у Беластоку ўсюды знаёмыя.

Працавалі мы спраўна. Прыйшлі на ўчастак далёка перад пятай: у будынку ў суботу звечара пачалося было вяселле. Калі мы прыйшлі працаваць, усюды віселі каляровыя шары, наклеены былі чырвоныя сэрцайкі, а на сцяне, над месцам, дзе мы мелі засесці, красаваўся бела-чырвоны сцяг, адмыслова драпіраваны, з іконай Божай Маці Чанстахоўскай. Шлюб быў, значыць, вельмі польскі. Прыйшлося нам *выпалошваць* апошніх вясельнікаў і рыхтаваць залу да справы не менш сур’ёзнай ад шлюбу выбраннікаў сэрца. Праўда, балёны мы пакінулі, — да наступнага вяселля, а на сэрцы на сценах начапілі абвяшчэнні. Першы выбаршчык паявіўся ў хвіліну пасля шостай. Зранку народу было малавата, так што паспелі мы похапкам выпіць каву. Найбольш працы з выдачай картаў для галасавання мела сяброўка, на якой вуліцах (найстарэйшага з пасляваенных кварталаў горада) жыве найбольш пенсіянераў; да яе часам стаяла нават чарга, асабліва калі людзі прыйшлі з багаслужбы з касцёла. Праз нейкі час мы ўсе асіплі, хоць не кожнаму трэба было казаць, як галасаваць, каб голас быў важны (на жаль, не ўсім гэта дапамагло). Прыводзілі і бабулек, якія не ўмелі падпісацца (*sąsiadka za mnie podpisze)*. Даваць іншых парад мы не мелі права — адсылалі да плакатаў, дзе ўсё было рыхтык, вялікімі літарамі, расталкавана. Праўда, адзін пажылы мужчына, падышоўшы да мяне яшчэ раз, упарта хацеў даведацца, хто найстарэйшы ў спіску СЛД, *bo nie chcę głosować na gówniarzy.* І даў свой голас Яну Сычэўскаму, доўга штудзіраваўшы спісак н-р 6, аб чым мяне, выходзячы, паведаміў.

Па нагах цягнула холадам — ад адкрытых насцеж уваходных дзвярэй на першым паверсе. Не дапамагала гарачая кава, бо былі хвіліны, калі не было калі хоць раз глытнуць. Добра, што камісія сарганізавалася ў дзве змены. Але адзіны „муж даверу” (хоць мела іх прыйсці аж 14 асоб), спакойная пані з АВС, цвёрда сядзела разам з намі поўныя 24 гадзіны, да 5 раніцы ў панядзелак. Назірала, лічыла выбаршчыкаў, дапамагала пералічваць карты, якія мы вывалілі з апячатанай урны, набітай шчыльна (апошнія карты ўтрамбоўваліся лінейкай). У той час у нас не было ўжо ручак — камісія магла карыстацца толькі алоўкамі, каб каму што паганае не прыйшло ў галаву.

Пачалі мы раскладаць карты „па спісках”. Раслі вялізныя кучы — „5” і „6”. Кожны з нас, здавалася, без эмоцый і ў поўнай канцэнтрацыі займаўся толькі тым, каб абсалютна справядліва ўсё палічыць, каб не дапусціць ні адлюсенькае памылкі — усе друкі ж на ўліку, усё мусіць згаджацца! Як на здзек, апошнія члены камісіі запрапанавалі ў пару паноў з АВС і СЛД. Першы „лопнуў” нан *-цев.* „Не магу перанесці гэтага Цімошку! Якія вар’яты на яго голас аддаюць!” — тут і абсунулася на яго кучка н-р „6”. І давай наш аб’ектыўны сябра дапякаць таму доктару ад СЛД, і так, і сяк: *Przez pana są tu tylko kłopoty, upierdliwy pan jesteś, wkurzasz nas pan tutaj, zamiast pracować!* Той пачцівец толькі маўчаў, бы вады ў рот набраўшы, што хіба яшчэ больш уводзіла ў злосць пана *-цева.* Праўда, малады той член СЛД заеў нас усіх сваёй дробязнасцю, рассеянасцю, адсутнасцю вытрымкі на стому і, так сказаць, тэмпераментам, але ўсе стараліся ў спакоі датрываць да канца свайго грамадзянскага абавязку. Тым больш што даходзіла ўжо 4 гадзіна панядзелка, а некаторыя камісіі (з 141) ужо завяршылі працу...

Лічым галасы, пералічваем некалькі разоў. Я асабліва шчыру́ю пры спісках „праваслаўных”, Уніі працы, заглядаю, як маюцца Сычэўскі, Плева, Кандрацюк, Тапалянскі. Гэта не таму, што „гляджу на рукі” калегам. А тут вось здараецца такое: вось страцілі голас Вапа і Цімашэвіч (хтось з нашых так „дагадзіў”, загаласаваў на двух). Нейкі шчыры беларус паставіў крыжыкі Чэрапу, Кандрацюку і Патэюковай, вось і яны маюць праз такое *do tyłu*. Вядома, кожны хвалюецца, бо, незалежна ад таго, што мы тут павінны працаваць як бясстрасная камп’ютэры, у кожнага з нас ёсць свае сімпатыі і страсці. Але мусіць быць абсалютна справядліва! Мае быць дэмакратычна.

Жанчыны спакойныя. Хіба толькі іх павінны браць у такія камісіі, бо, вось, пан з АВС усё больш бычыцца на хлопца з СЛД, ужо і гыркаць пачынае! А трэці сябра як не заравае чамусьці на калег! Хутка яго кабеты супакойваюць, хоць, вядома, крыўдна. Ну, справа зроблена. Цяпер яшчэ папакаваць важнае і няважнае, спісаць пратаколы, апячатаць, пападпісваць... На астылую каву ніхто не гляне. У мяне ад лісткоў паперы парэзаны палец. Днее. Мыем шклянкі, выносім смецце на калідор. Пані Данеля пакуе пратаколы. Вызываем таксі завезці плён нашай працы ў акруговую камісію. Уключаем радыё. Чуем, што лідзіруе АВС.

— Teraz to, kurwa, im dołożymy! Zapędzimy sk...ów do piwnic! — цешыцца пан з „рускім” прозвішчам.

**Міра Лукша**

# Арлянскія армяне

Арменія — шасцімільённая краіна, аддаленая ад нас на 5 тысяч кіламетраў. Вайна прымусіла многіх яе грамадзян пакінуць айчыну і шукаць спакойнага прытулку на чужыне. Некаторыя бежанцы трапілі на Беласточчыну. Сям’я Сіманянаў з Ерэвана — маці з двума сынамі — пасяліліся ў Орлі.

— Калі быў яшчэ Савецкі Саюз, то ў Арменіі было спакойна, усе народы жылі мірна, — расказвае 30-гадовы Давід Сіманян, архітэктар па прафесіі. — Пры гарбачоўскай перабудове ажыла этнічная варожасць. На Каўказе пачалася рэлігійная, а затым і тэрытарыяльная вайна. Хто з армян не паспеў уцячы з мусульманскага Азербайджана, быў забіты. Вайна пачалася ў лютым 1988 года, а 7 снежня гэтага ж года Арменію спасціг моцны землятрус. Я акурат ляжаў тады на тапчане ў кватэры на трэцім паверсе і глядзеў тэлебачанне. Раптам тапчан пачаў перасоўвацца па пакоі, заварушылася мэбля, паадчыняліся дзверы. Я басаном выбег на вуліцу і бачыў як наш блок танцаваў. У Ерэване было слабое землятрасенне. Найбольш пацярпелі гарады Ленінакан, Спітак і Кіравакан. У час вайны Арменія шэсць гадоў знаходзілася ў блакадзе. Былі мы акружаны з чатырох бакоў. Адкрыта была толькі адна дарога — цераз Грузію. Не было электраэнергіі, апалу, харчоў. Атрымоўвалі мы



толькі па 250 грамаў хлеба на душу. На апошнім курсе Ерэванскага архітэктурна-будаўнічага інстытута — мне было тады 26 гадоў — я дабравольцам пайшоў абараняць нашы вёскі ад азербайджанцаў. Змагаўся я ў гарах восем месяцаў. Пасля гадоў ваенных жахаў надарылася ў 1993 годзе магчымасць пакінуць Арменію. Я, мая мама Гаянэ і малодшы брат Гранд паляцелі самалётам на Захад і спыніліся ў характары бежанцаў у Нямеччыне. Пачулі мы там, што армяне выязджаюць у Польшчу і там жывуць аднесна добра, што Польшча — гэта спакойная краіна. З сакавіка 1995 года мы знаходзімся ў Польшчы. Спачатку паўгода жылі мы ў Нараўцы, потым чатыры месяцы ў Навасадах, пакуль не апынуліся ў Орлі. Трапіў я сюды як гандляр і тады заўважыў, што Орля — прыгожае мястэчка, што тут жывуць прыемныя, ветлівыя людзі і вырашыў застацца тут.

Мы ходзім маліцца ў царкву. Мама наведвае храм кожную нядзелю, мы з братам — радзей. Мяне яшчэ ўражвае тое, што ў царкве жанчыны спаглядаюць на мяне, паказваюць пальцам і шэпчуць: „О, чорны прыйшоў”. Армяне — гэта працавітві народ. Таргуем, каб зарабіць на жыццё. Бежанцам прапануюць дапамогу Чырвонага крыжа, але мы не хочам ласкі, толькі стараемся сумленна працаваць і жыць, хаця і скромна, але самастойна.

Я ў Орлі ўжо зжыўся з людзьмі. Калі бываю ў Беластоку, дык кажу маім суайчыннікам, што вяртаюся дадому, а яны думаюць, што я збіраюся ехаць у Арменію. Тады я ім тлумачу, што вяртаюся ў Орлю, што лічу яе сваёю мясцінай. Адчуваю сябе тут як дома. Я размаўляю па-руску, а мой брат умее ўжо гаварыць па-польску.

Чаму адчуваю сябе добра? Таму, што людзі тут добразычлівыя, спрыяльныя, цікавяцца намі. З людзьмі стараюся жыць згодна, вітацца, наведваць новых знаёмых.

Чаму Орля прыцягвае мяне? Таму, што большасць жыхароў мястэчка складаюць беларусы, а яны блізкія майму сэрцу. Так блізкія, што мы хацелі б жыць тут пастаянна, абзавесціся сем’ямі...

**Запісаў Міхал Мінцэвіч**

*Фота аўтара*

# „У маіх вершах сэрца насцеж...”

І сапраўды, мо яны на першы погляд няхітрыя, прасцейшыя, чым чуеш часамі ў сценах гэтай бібліятэкі, але тым самым наколькі ж шчырэйшыя, больш празрыстыя і даходзячыя да сэрца...

Прамоцыя новай кніжкі Віктара Шведа „Wiersze wybrane” адбылася 16 верасня 1997 года ў чытальні кніжак Ваяводскай публічнай бібліятэкі імя Лукаша Гурніцкага.

Гэта кніжка, пра якую Віктар Швед даўно марыў, складаецца з вершаў, выбраных з ранейшых зборнікаў аўтара, і ўбачыла свет дзякуючы таму, што аўтар сам узяўся за пераклад сваіх вершаў, напісаных па-беларуску. — менавіта так, як адчувае Віктарава сэрца. Хацелася яму давесці іх да польскага чытача, бо, як лічыць аўтар, „Białorusinów i Polaków zawsze jednako serce czuje”.

На вечары Віктар Швед скардзіўся: „Хаця мае вершы простыя, цяжка іх перакладаць. Я ў гэтым сам пераканаўся. І Ян Леанчук гэта ведае. У кожным выпадку некалькіх з запланаваных вершаў мне не ўдалося перакласці”.

Вельмі цёпла гаворыць пра аўтара паэт Ян Леанчук, сурэдактар гэтай кніжкі. Мо эксплуатуе ён старыя тэмы, сцвярджае. Пры дапамозе традыцыйных форм верша вяртаецца да дзяцінства, успамінае тое, што было: вясковую хату, дрэвы, макатку на сцяне, абразы. Дзяцінства і дарослaсць цесна пераплятаюцца ў творчасці Шведа. У гэтым праяўляецца яе аўтэнтычнасць і шчырасць, зацікаўленне светам чыстым і добрым, пазбаўленым хітрасці і ашуканства.

І сам Віктар Швед ведае, што ў яго вершах для дарослых шмат настальгіі, смуткy, але гарантуе, што ў вершах для дзяцей, новы зборнік якіх падрыхтаваны і чакае выдання ўжо другі год, гэтага няма. Лічу, што на гэта дзеці яшчэ маюць час, сказаў ён.

Віктар Швед прачытаў на вечары некалькі сваіх вершаў па-польску, а пасля і па-беларуску, у арыгінальнай версіі.

Але найбольш вершаў чытаў Анджэй Кароляк, акцёр Беластоцкага драматычнага тэатра імя А. Вянгеркі. Верш „Wigilia” ў яго выкананні гэта было штосьці! Слухачы бачылі наяву і тое сена пад абрусом ды жытнёвыя каласы ў куце, і тыя калядныя стравы: смачны боршч з баравікамі, гатаваныя сушаныя грушкі, панцак, грыбы, рыбу ды аўсяны кісель, блінчыкі, селядцы...

Вялікую неспадзеўку зрабіла Наталька, сямігадовая Шведава дачушка, што пайшла сёлета ў беларускі клас школы нумар 4, прачытаўшы (пакуль што папольску) два вершы для дзяцей.

Сярод прысутных з так званага беларускага асяроддзя не было амаль нікога. Убачыла я Марка Заброцкага, які быў службова, Міхася Хмялеўскага, Янку Целушэцкага ды пару карэспандэнтаў „Нівы”. І ўсё больш пажылыя людзі папрыходзілі. Але Віктар і так цешыўся, „sam będąc również już jesienny”.

**Ада Чачуга**

*Фота аўтара*



# З мінулага маёй сям'і, вёскі, мясцовасці

**Васіль Сакоўскі**

***(працяг; пачатак у 18 н-ры за 1996 год)***

Іншай вялікай дурнотай часоў Народнай Польшчы ў маёй вёсцы было згаданае ўжо мною перанясенне нашай рэчкі Локніцы ў іншае месца. На гэтае мерапрыемства былі таксама патрачаны велізарныя грошы, якіх не хапала тады на самыя элементарныя патрэбы. А карысці ад гэтага ніякай, толькі адны шкоды. З другога ж боку, ці ж можна пераносіць рэчку з самага апткамальнага, бо вызначанага самой прыродай, месца?..

Канешне, куды большай дурнотай было б, калі б, напрыклад, камусьці з тадышніх кіраўнікоў прыйшло ў галаву змяненне напрамку цячэння яе. Плыве сабе рэчка з поўдня на поўнач... і раптам яе цячэнне паварочваюць так, каб плыла з поўначы на поўдзень, каб пачала ўплываць менавіта туды, адкуль прырода казала выплываць ёй — вось дзе быў бы апагей дурноты. А што магла камусьці прыйсці ў галаву і такая думка, то напэўна. Была ж такая славутая краіна тады, у якой пробавалі змяняць і напрамак цячэння рэк. І якраз гэтая краіна была тады прыкладам для нас. Калгасная сістэма таксама прыйшла адтуль. Было, на жаль, нямала і іншых большых і меншых дурнот тады...

Але было таксама нямала і добрых, разумных змен, як, напрыклад, камасацыя, дрэнажаванне, кантрактацыя, пабудова новых дарог, клубы, бясплатная адукацыя і медыцынская дапамога, пенсіі сялянам. Уводзіліся новыя, пародзістыя гатункі дамашніх жывёл, фруктовых дрэў, гароднiны, збожжавых культур. Пачалі заворваць сенажацi i засяваць iх новымi, выдатнымi гатункамі траў і г.д.

Амаль усе гэтыя змены і мерапрыемствы (як кепскія, так і добрыя), якія масава плылі ў нашу пасляваенную вёску, прымаліся ёю вельмі ж неахвотна і з недаверам. Ой, неахвотнай была вёска наша да навінак і змен.

Ужо пры маёй памяці былі ў нас яшчэ такія сем'і, якія вывезены з хлява гной бралі з капіц голымі рукамі і так растрасалі па полі, бо лічылі грэхам растрасаць яго жалезнымі віламі. Пачалі растрасаць яны віламі толькі пасля смерці сваіх адсталых бацькоў і калі ўжо вёска пачала насміхацца з іх ды публічна нюхаць іх рукі. Цяпер гной растрасаюць амаль толькі механічна.

Помню таксама, якому смеху і крытыцы падвяргаліся тыя вяскоўцы, якія першымі серп памянялі на касу ў час жніва. Прарочылі ім, што астануцца самі без хлеба і ўся вёска пацерпіць праз іх грэшныя выдумкі. Цяпер ужо і касой ніхто не косіць збожжа і травы, толькі машынамі. Механічна жнецца, косіцца, возіцца, арэцца, сеецца, малоціцца, мелецца...

Калі першы раз прыехалі ў нашу вёску з прапановай на поўны дзяржаўны кошт заараць, удобрыць і засеяць сенажаці, народ чуць не качаўся са смеху ад такой — на іх думку — недарэчнай прапановы. Бо хто ж калі чуў ці бачыў, каб заворваць і засяваць сенажаці?!.

На ўсю нашу вёску з вялікімі цяжкасцямі знайшлі толькі чатырох ахвотнікаў, якія адважыліся дазволіць заараць і засеяць свае сенажаці, але толькі частку, каб не застацца зусім без травы і сена і не стаць яшчэ большым пасмешышчам аднавяскоўцаў. Сяляне ж былі перакана违, што травапасяўны эксперымент не ўдасца і проста прагнулі, каб ён не ўдаўся.

Я вельмі рады, што сярод гэтых адважных быў і мой бацька. Ён сам прыладзіў да свайго коннага плуга спецыяльны нож для рэзання дзёрну і спраўна зaараў сваю сенажаць, засеяў і конна ўтрамбаваў каткoм — „завалаваў”. Мой тата любіў рабіць усё дакладна. Так і тут, так стараўся, што аж перастараўся. Завалаваўшы ўбачыў, што многа травяного насення было не прыкрытага зямлёй. Таму ўзяў і заваланчыў яшчэ, а гэтага рабіць, аказваецца, нельга. І трэба было яшчэ раз валаваць. Канешне, за ўсе гэтыя працы яму адлічылі шарварку.

Тры іншыя ахвотнікі-эксперыментатары таксама працавалі на сваіх сенажацях за шарварку. Адзін з іх, якога сенажаць ляжала пасярэдзіне эксперыментальнага палетка, ухітрыўся выгаргаваць яшчэ, каб частку яго сенажаці аставіць незааранай і незасеенай для параўнання, як бы не можна было параўнаць з бакамі.

Усе іншыя сяляне стаялі злосным мурам і гатовы былі хутчэй легчы пад трактар, чым дазволіць заараць і засеяць сваю сенажаць.

Травапасяўны эксперымент удаўся надзвычай добра. Відаць, добра падрыхтавалі глебу, добра ўгнаілі і добрай травой засеялі, бо гэтыя сенажаці далі ў пяць-шэсць разоў больш і лепшай травы і пашы. Яе часта касілі, а яна ўсё пёрла ўверх і пёрла.

Іранічныя насмешкі многіх сялян замяніліся шчырaю зайздрасцю цяпер. Але і надалей нашы сяляне не надта рваліся рабіць тое самае са сваімі сенажацямі і чакалі, што з гэтага далей будзе. Прайшло нямала яшчэ часу, пакуль і іншыя нашы сяляне пачалі заворваць і засяваць свае сенажаці.

*(заканчэнне будзе)*

# Заўсёды пакрыўджаныя

Пры санацыйнай уладзе ўсходнюю Польшчу называлі „Польскай Б”. На гэтай тэрыторыі слаба развівалася гаспадарчая дзейнасць, найбольш было беспрацоўных, якія хадзілі з Беластока ў Гайнаўку і назад у пошуках працы. Калі пачалі ўзнікаць камуністычныя ячэйкі, адсюль найбольш людзей сядзела ў Картуз-Бярозе за палітычную дзейнасць. Калі ў 1939 годзе зрабілі чацвёрты разбор Польшчы згодна дагавору Рыбентроп—Молатаў, зноў найгорш давялося ўсходняй Польшчы. Тут саветы пачалі будаваць калгасы і мучыць людзей, прымушаючы іх вазіць каменне на будову аэрадрома ў Заблудаве, за якое па сённяшні дзень сяляне не атрымалі грошай. Саветы сталі раскулачваць сялян і вывозіць іх у Сібір на прымусовыя работы. Глынулі там нашы людзі гора, ой глынулі. Расказвалі аб гэтым тыя, якія змаглі вярнуцца пасля 1945 года.

Калі нашу тэрыторыю занялі немцы, ізноў была бяда, бо прыйшлося вазіць каменне на баранавіцкую шашу і высякаць лес у Жэдні, таксама без аніякай заплаты. І зноў трэба было баяцца і немцаў, і рускіх партызан, якіх атрады дзейнічалі на нашай тэрыторыі.

Калі ў 1944 годзе на святога Антонія, 23 ліпеня, нас вызвалілі, тады многія нашы людзі пайшлі працаваць у гарады: хто ў міліцыю, хто ў УБ, многія на будаўнічыя камбінаты, каб неяк уладкавацца ў горадзе, бо там лягчэй. А ўлады зноў пачалі сялян мучыць калгасамі. Многія людзі загінулі ад бандаў, а іхняя сем'і па сённяшні дзень не ведаюць, дзе магілы, каб магчы паставіць ім крыж ці зрабіць хрысціянскае перапахаванне. Цяперашнія ветэраны не хочуць нам паказаць магіл памардаваных імі людзей.

Цяпер, калі ўжо кажуць, што ў дзяржаве паўстала дэмакратычная ўлада нас, праваслаўных, пачалі выганяць у Расею. Кажуць, для нас там месца.

Мае дзяды, прадзеды нарадзіліся на Беласточчыне, тут пражывалі і мая айчына тут, і тут я буду жыць.

Мяне толькі вельмі хвалюе адно: чаму мы, праваслаўныя беларусы, не можам аб'яднацца і стварыць адну арганізацыю, моцную, каб магчы змагацца за свае справы. Калі прыходзяць выбары ў Сейм і Сенат, тады мы разбіваемся, як блудныя гусі, у розныя групоўкі. Нам заўсёды трэба галасаваць на сваіх, бо можа яны хаця крышку зрабілі б штосьць лепшага.

**Мікалай Лук'янюк**

# Нарэшце ёсць Белавежа!

Гэта можа паказацца дзіўным, але да нядаўна мясцовасць Белавежа фармальна... не існавала! Такой назвай толькі традыцыйна акрэсліваліся вёскі, якія знаходзяцца на Белавежскай паляне, г.зн. Стачок, Застава, Крыжы, Падаляны I і II, Цэнтура, Вайцяхоўка. І, вось, улетку на нечарговай сесіі Рада гміны большасцю галасоў (10 за, 1 супраць, 3 устрымаліся) прыняла нарэшце пастанову аб фармальным утварэнні мясцовасці Белавежа. Прыняцце гэтай пастановы папярэдзіла шырокая кансультацыя сярод жыхароў паасобных вёсак.

**Пётр Байко**

# Парнасік

## Дарога ў НАТО

Польшча ў НАТО спяшыць,
Каб пасля сябе асмяшыць:
Выручаць заходніх бізнесменаў
па зброі
І мо гатовіцца да бою?
Але з кім і з чым —
Гэта загадка і клін!
Ніхто ёй дарам нічога не дасць,
А толькі за салёныя грошы прадасць.
І то ўстарэлыя танкі —
Чакаюць на гэта адпаведныя банкі.
А самалёты рэактыўнага тыпа —
Гэта дурніца і ліпа;
Уваліць за іх грошай у золаце
і валюце
І будзе Польшча хадзіць у адным боце.
Гэтых сто самалётаў яе не паратуе,
А хутчэй і прагна зруйнуе.
І перад кім Польшча будзе бараніцца,
Якая прывыкла хлусіць і хваліцца?
А мо рускім дасць адпор і навучку,
З якімі нядаўна хадзіла пад ручку?
Думаю, для Расіі Польшча ў галаве
не вельмі;
У яе ёсць свой прынцып верны:
Утрымаць ад развалу сваю краіну
І не глядзець на польскую даліну.
Сваёй тэрыторыі Расія мае
па самыя вушы,
Дзе многія людзі жывуць
як у палескай глушы.
А мо баімся немцаў; але цяпер мы
саюзнікі
І хутчэй у нашых вярхах сядзяць
дзівакі і блуднікі.
Немец, як схоча, забярэ нас за тры дні,
Не пакідаючы голага пня.
Але да гэтага не дойдзе
І мірным шляхам усё пройдзе.
Бо ў Германіі дэмакратыя такая,
што нам да яе далёка,
Каб мы беглі да яе нават і шалёным
крокам —
Ніколі не дагонім
І не абгонім.
І таму ніхто на нас нападаць
не намераны —
Я ў гэта рашуча веру!

**Мікалай Панфілюк**

## Да лекара

Дарагі наш лекар,
Я хачу тое знаці,
Калі ўжо перастанеш
У нас ты страйкаваці.
Як цябе вучылі
То грошай не бралі,
Пры камуне дарма
Усё табе давалі.
Ты цяпер страйкуеш,
Хочаш даказаці,
Што мы, хваравіты,
Павінны паўміраці.
Ты хочаш прыватны
Кабінет адкрыці,
З бедных пенсіянераў
Каб шкуру лупіці.
Падзівісь як людзі
Цяпер пражываюць.
Каб купіці лекі
Грошай яны не маюць.
Перастань ты лепей
У шпіталі страйкаваці,
Тады цябе станучь
Усе шанаваці.
Стань да кампрамісу,
Ды там дагаварыся,
А не, вазьмі яду
І сам атруціся.

**Мікалай Лук'янюк**

## Гістарычны пшык

**або „Штучнае, хоць і гучнае, — пшыку сугучнае"**

Быў час, калі беларуска-расійскія
адносіны
Нагадвалі, кажучы смешна, лесбійскія
зносіны.
Беларусь Расіі такою ўрэшце стала
любай,
Што любоў іх лесбійская скончылася
шлюбам.

Аднак гучнае вяселле — пышны
прэзідэнцкі шык —
Перспектыву адну толькі мае:
гістарычны пшык.
Каб жа стацца Беларусі
Дзяржавай-Краінай,
Ці не лепш бы ёй крочыць у нагу
з Украінай?!

**Алесь Ляскоўскі**

# Легенды і рэчаіснасць

Цяперашні год быў даволі бататы ў падзеі і пэўна пройдзе да гісторыі трэцяй Рэчы Паспалітай. Пілігрымка рымскага папы, мадрыдскі саміт НАТО і запрашэнне да перагавораў наконт інтэграцыі з заходнееўрапейскімі структурамі, візіт прэзідэнта Клінтана ў Варшаву, паводка і парламенцкія выбары ў нашай краіне — гэта вядучыя тэмы ў сродках масавай інфармацыі, якія шырокім рэхам адбіліся ў народзе і акрэсленым крузе палітычнай эліты. Кожная з гэтых падзей пакінула ў грамадстве нейкі след і выклікала разнародныя думкі і рэфлексіі. Сёння хачу закрануць тэму двух здарэнняў, якія неразлучна спалучаюцца з сабою ў лагічнае адзінства.

Аб пілігрымцы рымскага папы найбольш гаварылася паміж каталіцкімі вернікамі. Разумею, што ім гэта пытанне гонару вітаць так паважаную персону ў сваёй краіне. У час пілігрымкі журналісты ставілі міністру Мілеру пытанне, колькі гэтае мерапрыемства будзе каштаваць наш бюджэт. Спадар міністр так і не назваў канкрэтнай сумы. Чаму? Гэта мне зразумела. Вось, што гаворыць жыхар Маліннікаў Сцяпан К. на гэту тэму:

— Незадоўга пасля пілігрымкі рымскага папы, я наведаў сына ў Вроцлаве. У час размовы сын мне расказаў вось такую гісторыю. Праваслаўныя вернікі купілі старадаўні будынак на царкву. Патрабаваў ён большага рамонту. Вернікам не пад сілу было зрабіць рамонт уласнымі сродкамі. Звярнуліся яны да прэзідэнта горада за грашовай дапамогай. Трэба адзначыць, што згаданы будынак — гэта архітэктурны помнік. Вернікам адмовілі, а калі трэба было пабудаваць трыумфальную браму ў гонар рымскага папы, хутка знайшоўся мільён злотых.

Не ведаю, як доўга захапляліся б каталіцкія вернікі сваім Ойцам Свентым, каб бляск падзеі не прыцямніла шэрасць катаклізму, які наведаў паўднёва-заходнія ваяводствы нашай краіны. Паводка сталася вядучай тэмай усіх мас-медыяў.

У палове ліпеня сустрэў я ў цягніку даўнейшага калегу па рабоце Пімена Г. са Ставішчаў. Вяртаўся ён дамоў на пропуск з санаторыі. Так склалася, што быў ён відавочцам людской трагедыі, паколькі яго санаторыя знаходзілася ў Глухалазах, горадзе распалажаным на рубяжах чэшскай граніцы, дзе і пачыналася паводка.

— Быў я ў гэтым пекле, — сказаў мой калега. — Калі пачалі гаварыць пра паводку ў Чэхіі, мы не спадзяваліся, што праз некалькі дзён станем ахвярай катаклізму. А ўсяму віноўная Чэхія. Калі там пачало заліваць, тады яны адкрылі шлюзы сваіх вадасховішчаў. Вада хлынула ў Польшчу. Будынак санаторыі (як і ўсе іншыя) апынуліся пад вадою. Ваду і яду нам пастаўлялі лодкамі і верталётам. Былі такія, што бохан хлеба прадавалі па 7 зл., а паўтаралітровую бутэльку газіраванай вады па 14 зл. Пасля нас з санаторыі верталётам перавезлі ў іншы вышэй паложаны будынак...

У той час як мы вялі гаворку, у суседнім купэ вагона сядзелі дзве маладыя дзяўчыны (пэўна вучаніцы). З увагай прыслухоўваліся яны нашай размове. Калі ў Сухавольцах накіраваліся яны да выхаду, адна з іх раптам загаварыла: — А ведаеце, чаму Одра разлілася?..

І пачулі мы такую аповесць.

— На шляху пілігрымкі рымскага папы (не памятаю ўжо назвы мясцовасці названай дзяўчынай) стаяла царкоўка. Каталіцкія вернікі разбурылі яе, а іконы паўкідалі ў Одру. Людзі кажуць, што гэта боская кара ўпала на нягоднікаў... Таму рака выступіла з берагоў...

Цягнік ад'ехаў. Незнаёмыя спадарожніцы засталіся на пероне ў Сухавольцах, а я, уражаны расказам, пытаю сябе зараз: „Няўжо гэта магчыма? Няўжо ж гэта праўда?"

**Уладзімір Сідарук**

# Двухлітарная крыжаванка

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | | 2 | | 3 | | 4 |
| | ■ | 5 | 6 | | ■ | |
| 7 | 8 | ■ | | ■ | 9 | |
| | 10 | | | | | |
| 11 | | ■ | | ■ | 12 | 13 |
| | ■ | 14 | | 15 | ■ | |
| 16 | | | | 17 | | |

**Гарызантальна:** 1. тонкая паўпразрыстая тканіна, 3. сталіца волжска-камскай Балгарыі да 12-га стагоддзя, 5. гістарычная частка Вялікабрытаніі, 7. вузкая паласа лубу, з якога плялі лапці, 9. франтон двухскатнага даху, 10. Ота, амерыканскі акцёр і рэжысёр (1906—86), 11. злучэнне трох атамаў кіслароду, 12. суседка Явы, 14. прадукт мужчынскіх палавых залозаў, 16. набываe спецыялістычны вопыт, 17. няўдача.

**Вертыкальна:** 1. палачкападобныя бактэрыі (мн. лік), 2. форма тулава, 3. штат на ўсходзе Бразіліі, 4. запаленне суставаў, 6. прыбор для вымярэння глыбіні, 8. штучнае валакно высокай трываласці, 9. беларускі гімнаст, герой алімпіяды ў Барселоне, 11. валакністы вогнетрывалы матэрыял, 13. род мастацкай літаратуры, 14. удача, поспех, 15. рака ў Бельгіі. **(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 33 нумара**

**Гарызантальна:** Валдай, Флаэрці, Тасман, асколак, Арктур, Дананг, архірэй, Вертэш, Арэвала, мастак.

**Вертыкальна:** Іфланд, байкен, крылан, Вітка, Лёсік, Амаду, Рыхтэр, турбан, Райчаў, афера, актэт, Гашак.

Кніжную ўзнагароду высылаем **Аляксандру Дабчынскаму** з Беластока.

# ВЕР — НЕ ВЕР

Астроне! Прысніўся мне такі сон, што быццам я пасля нейкай аперацыі і памерла (але ўсё бачу быццам збоку). Бачу сваю труну, яе закопваюць на нашым двары, недалёка ад хаты. З труны пачынае выцякаць кроў (у ваколіцах бёдраў нябожчыка). Мая мама давай труну адгортваць, адчыняюць века, а там ляжыць у белым адзенні мая пакойная бабуля (памерла амаль 20 гадоў таму), твар у яе натуральны, загарэлы. А мой маленькі сын, што ў мяне на руках, глядзіць на яе (стаім у галовах) і кажа: „О, бузя!" Я хутчэй сыходжу, каб малы не глядзеў. Не магу паверыць, як гэта стала, што замест мяне ў труне — бабка. Але мне не боязна.

**Ірка**

Дарагі Астроне! Прабач, што ізноў да цябе звяртаюся. Ты ж нядаўна даў мне адказ на сон, з-за якога я начамі спаць не магла, спадзеючыся найгоршага і чакаючы тваіго адказу. І тут якая ж неспадзеўка — сон вельмі добры. Я ўваскрэсла! Ды, бачыш — ненадоўга. Бо вось ізноў страшна мне стала. Сніцца такое. Бачу свайго мужа. Нясе ён на плячах труну. У труне ляжыць малады мужчына. Цела яго пакрытае чымсьці дзіўным, напамінаючым мох. Бачу і другую труну. Што гэта такое, Астроне? Адкажы як мага хутчэй.

**Людміла**

Даражэнькія Ірка і Людміла! Я ж жо не адзін раз пісаў пра труну. Калі сніцца яна старым, дык прадвяшчае хваробу, мо нават блізкую смерць. Сямейным людзям сярэдняга ўзросту абазначае яна прыбытак. Маладым жа — вяселле і доўгае жыццё.

Так што ў асноўным вы змаглі б адказаць на гэты сон самі. Але што датычыцца дэталяў...

Абедзве вы быццам уваскрэслі, але ў цябе, Ірка, з труны пачала выцякаць кроў. Можа, нейкія падзеі, пра якія мы гаворым, будуць датычыцца нейкіх тваіх кроўных, сваякоў.

А ў цябе, Людміла, цела нябожчыка было пакрыта мохам. Можа сон датычыцца нейкіх старых, задаўнелых спраў.

**Астрон**


**Ніва**

**„Niwa"**, ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok, skr. poczt. 149, tel./fax 435-022.
Druk: „ORTHDRUK", Białystok, ul. Składowa 9.
**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.
**Выдае:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва". Старшыня Праграмнай рады: Валянцін Сельвясюк.

**Prenumerata:**

1. Termin wpłat na prenumeratę na I kwartał 1998 r. upływa 5 grudnia 1997 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch" na terenie całego kraju.
2. Cena prenumeraty na I kwartał 1988 r. wynosi 13 zł.
3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa. Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.
4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,90 zł, a kwartalnie — 24,70 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa", Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

# Ніўка

## Чатырохрадкоўі

Хто ў падхалімах век пражыў —
Аўтарытэту не нажыў.
Хто гордым быў, не гнуўся ў рог, —
Таго і чорт не перамог!

* * *

У час быць замужам, дачуха!
— Ой-ёй, матулечка, не туж,
Пакуль я сэрцам весялуха
І кожны вечар — новы муж...

* * *

Хлусні не любяць тыя сказы,
Дзе шмат падказак і абразы.
Калі ж сумленнай думка будзе —
Павагі аўтару прыбудзе

**Алесь ПІСАРЫК**

## Скажам праўду

Размаўляюць дзве сяброўкі.

— Ведаеш, мой будучы муж павінен мець шмат добрых рысаў: разбірацца ў сельскай гаспадарцы і палітыцы, спяваць, іграць, ведаць многа анекдотаў і ўмець іх расказаць, а таксама маўчаць, калі я захачу мець цішыню ў хаце.

— Ну, табе не муж патрэбен, а добры тэлевізар.

* * *

Багаты шэйх прыбывае ў элегантны дом мадэлей. Пасля кароткага роздуму рашае:

— Калі ласка, запакуйце мне тысячу сукенак.

— Але ж, вельмішаноўны пан, у кожнае з іх — розны размер, — нясмела заўважае прадавец.

— Ведаеце, гэтак жа ёсць і з маімі жонкамі. **(лук)**

## Думкі ў час мігрэні

* Жанчыны як каты — ходзяць сваімі дарогамі.

* Аднаго не можна адмовіць Лукашэнку — праславіў Беларусь на ўвесь свет.

* Біблію я не ўключыў у сваю дамашнюю бібліятэку — не збіраю дэтэктываў.

* Калі хто знішчыць храм — твор людскіх рук, мы крайне абураны, але калі самі знішчаем прыроду — несумненна боскі твор, лёгка адпускаем сабе гэты грэх.

* Свая бяда — як гара, чужая — як зярнятка пяску. **Пётр Байко**




*Мал. Алега КАРПОВІЧА*

## Гарэм пакуль не свеціць

Ой, дзяўчаты, бачыла я на гэтым тыдні ў магазіне брыльянтавае кальe неапісальнай прыгажосці, за дзесяць мільёнаў. Ніхто пакуль не купіў, хаця цмокалі языкамі, білі шапкамі аб падлогу, кулаком па прылаўку... Дык вось, я таксама — кальe! Пaглядзець — пaглядзі, а сваім назваць...

Вядома, добра было б выйсці замуж за Мікіценку! Высокі, прыгожы асабняк на беразе мора, на даху — плавальны басейн на 100 целаў, а ў холе — залаты фантан, асётр вэнджаны.

Але Мікіценка нейкі прышыблены, толькі пра грошы ды пра грошы гаворыць — учора мільён надрукаваў, заўтра мільён надрукуе, а дзе машынка друкарская стаіць, не кажа.

Лепш за Грыгарана выскачыць замуж! У яго сем аўтамабіляў на кожны дзень тыдня. Грыгаран, калі за рулём сядзіць, арол арлом, нягледзячы на тое, што шавялюру на чужых падушках разгубляў, і цяпер галава на скрыжаваннях святлафор дубліруе. Бог з ёй, з галавой, але гэты Грыгаран, калі вылазіць з машыны, на мяне, як на прэзідэнта Расіі глядзіць: знізу ўверх.

Затое Далідзе — прыгажун. Грацыёзны, хада царская і замашкі каралеўскія. Хоць „Волгу" купіць, хоць Днепр з „Запарожцам", толькі папрасі. Раней такіх на Выстаўцы дасягненняў народнай гаспадаркі ў павільёне конегадоўлі паказвалі.

— Вы калі-небудзь спрабавалі харчавацца адной халвой? На снеданне халва, на абед — халва, на вячэру — цьфу, зноў халва. Вось і з Мамедавым таксама. Салодкі, як трэці літр сіропу залпам. Добра было, бясспрэчна, за яго выскачыць, тым больш што ў яго ўжо ёсць тры жонкі, я была б чацвёртай. У даміно б з дзяўчатамі гулялі, у падкіднога. Няўжо мы, чатыры бабы, не знойдзем агульнай міжнацыянальнай мовы і не перавядзём гарэм на сямейны падрад.

А, можа, проста выйсці замуж за слесара-наладчыка Пятрова? Тым больш, што ён адзіны, хто зрабіў мне гэтую прапанову.

**Амір ДАУТАЎ**

*Пераклад Валерыя БАБЕЯ*

## „Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка

— Ці гэта праўда, што чалавек можа жыць без апендыкса?

— Чалавек так, але хірург — не.

* * *

У лекара:

— Ваш муж ужо ніколі не зможа працаваць. Толькі далікатна, каб не хваляваць, скажыце яму пра гэту жудасную праўду...

— Наколькі я знаю свайго мужа, гэтая жудасная праўда толькі палепшыць яго самаадчуванне.

* * *

Пацыент зайшоў да ўрача з сінякамі на нагах.

— Вы пэўна футбаліст або хакеіст? — пытае лекар.

— Не, я — рахункавод.

— Дык адкуль гэтыя сінякі?

— Учора былі ў знаёмых у застоллі і жонка ўвесь час мяне настаўляла, каб не выказваўся на палітычныя тэмы.

* * *

У псіхушку прывезлі хворага.

— Пан доктар! Займіцеся гэтым вар'ятам: уварваўся ён у рэстаран, забег на кухню, і там драўлянаю лыжкаю ўдарыў па катлеце, а пасля пацалаваў кухарку.

— Зараз яго адпусціце! Ён цалкам нармальны.

— ?!

— Быў бы ён ненармальным, калі б лыжкай ударыў кухарку, а пасля пацалаваў катлету.

* * *

— Бландзінка ляціць самалётам у Лондан. Як выцясніць яе з фатэля побач акна, які яна займае?

— Трэба ёй сказаць, што месца ў Лондан знаходзіцца ў сярэднім фатэлі.

* * *

Ксёндз на ўроку рэлігіі:

— Дарагія! Бог не ёсць ні чорны, ні белы, ні мужчынам, ні жанчынай...

— То ён такі, як Майкл Джэксан?!

* * *

— Ну, старая, — звяртаецца муж да жонкі, — пакуй свае манаткі: выйграў я ў таталізатары!

— А куды паедзем?

— Я — нікуды; паедзеш толькі ты.

* * *

— Слухай, дружа! Мушу табе выявіць сакрэт: твая жонка здраджвае табе са мною...

— А гэта нягодніца! Гаварыла ж яна, што яе каханкам з'яўляецца элегантны, статны мужчына.

## *Сардэчныя* ТАЙНЫ

Дальбог, Сэрцайка, кажу праўду. Ну, хочаш — вер, хочаш — не вер. Прыгожы быў, як халера, але ці ж ён быў для мяне?.. Яму было гадоў трыццаць, а мне — сорак. А да таго ж я была з мужам.

Знаёмыя запрасілі нас летам на пару дзён да сябе на дачу. Высветлілася, што запрасілі яны не толькі нас, але і яшчэ пару асоб, бо вырашылі адсвяткаваць на лоне натуры гадавіну свайго шлюбу. Хата ў іх вялікая, прастору там не бракуе, дык было цудоўна.

Да гаспадара прыехаў таксама яго малодшы брат, яшчэ нежанаты хлопец. Быў ён, як кажуць, аздобай кампаніі, бо вылучаўся эрудыцыяй і дасціпнасцю, а да таго ўмеў у любы момант сказаць жанчыне нешта прыемнае. Ой, любяць гэта бабкі, любяць! Ну, а калі чуюць кампліменты з вуснаў такога прыгожага хлопца... Адным словам, задаволены былі ўсе — і мужчыны таксама, бо маглі больш заняцца сабою, пасядзець у мужчынскай кампаніі ці павудзіць рыбу.

Асноўная гасціна адбылася ў суботу, каб у нядзелю можна было яшчэ адпачыць, пакупацца. Гаспадароў брат сядзеў за сталом якраз насупраць мяне. Ужо ўсе былі даволі-такі „разагрэтыя", калі я звярнулася да мужа і кажу яму паціху, што хлопец, які сядзіць насупраць, вельмі напамінае мне аднаго акцёра з амерыканскага фільма, які мы глядзелі зусім нядаўна. Муж паківаў галавой. Маўляў, можа і сапраўды ў гэтым нешта ёсць: мужчыны не надта любяць, калі ў іх прысутнасці жанчына хваліць іншага. А ўжо калі гэта робіць жонка...

Хлопец адчуў, што мы гаворым пра яго. У яго вачах я заўважыла пытанне. Кажу, што ён мне здаецца падобным на акцёра, які іграў нядаўна ў фільме, што ішоў у нашай тэлевізіі. Муж дадаў, што мы гаворым пра яго жыццёвую памылку, бо павінен быў стаць акцёрам, а не інжынерам.

Хлопец пачырванеў і заўсміхаўся. Неяк адразу глянуў на мяне цёплымі вачыма. А пасля ўжо трэба было ўцякаць ад яго позірку. Я падумала: дзякуй Богу, што заўтра едзем дахаты, бо яшчэ крыху — і мужу гэта перастане падабацца. Ён жа не сляпы!

На другі дзень хлопец, аднак, ад мяне не адыходзіў. Часу яшчэ было шмат, бо мы мелі ехаць вечарам. Над возерам ён мне сказаў, што даўно ўжо яго так не кранула нічога, як сустрэча са мной. Я глянула на яго здзіўлена і падумала: ну, і навошта мне было трапаць языком...

Дома быў нейкі час спакой, а ў верасні пачаліся тэлефонныя званкі на працу, уздыханні і просьбы сустрэцца. Паяўляўся ён усюды, дзе магла быць я. Мне б можа і не перашкаджала, што нейкі прыгожы малады чалавек бльтаецца ў мяне пад нагамі, але ж ... ён патрабуе ад мяне канкрэтнага адказу на пытанне: ці я буду з ім?

Божачкі, старая баба з траіма дзецьмі, да чаго я яму патрэбная... Іншая справа, калі мы былі ў гасціне, на ўлонні прыроды. А так... Ну, што я, дзеля яго дзяцей і мужа кіну, ці як...

Уся гэта сітуацыя пачынае ўжо мяне мучыць. Сяброўкі ўпэўнены, што я завяла сябе каханка. Мужу я нічога пра яго не расказваю, бо навошта яго нерваваць. Яшчэ ўсё можа скончыцца вялікім скандалам, калі ён даведаецца пра гэта.

Хлопец мне, вядома, падабаецца, але я ніколі не думала, што гэта будзе такое клапатлівае знаёмства. Мой муж таксама яшчэ малады і я яго кахаю. Дык як жа я магу ад яго адысці...

**АЛЬЖБЕТА**

Альжбета! А ці гэты хлопец просіць цябе, каб ты адышла ад мужа і дзяцей?! Ён жа ўсяго хоча, каб ты „была" з ім. Ты яшчэ тэтага не зразумела? Такому свабоднаму хлопцу напэўна непатрэбная жонка з трыма хвастамі. Ён толькі хоча „быць" з табою. А гэта ўжо цалкам іншая справа.

Дарэчы, высветлілася, што ты ў кампаніі была неасцярожная. Відаць, не спадзявалася такога ходу справы. А хлопец аказаўся даволі „лёгкі".

**СЭРЦАЙКА**